ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№41 (2547)

9 кастрычніка 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## ВЯРТАННЕ КРЫЖА



Пяць гадоў таму ўзнікла ідэя "стварыць копію Крыжа Ефрасінні Полацкай, выкананага ў 1161 годзе майстрам Богшам, у хрышчэнні Лазарам" і страчанага ў час другой сусветнай вайны. Працу брэсцкага мастака Міколы Кузьміча благаславіў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. Мастаку ўдалося здзейсніць амаль што неверагоднае — аднавіць тэхніку, у якой выкананы эмалевыя мініяцюры, што ўпрыгожвалі Крыж.

І вось 27 верасня 1997 года ўсе, хто меў дачыненне да ідэі стварэння Крыжа па ўзору Узвіжальнага Крыжа Ефрасінні Полацкай, паломнікі з розных куткоў Беларусі, святары і вернікі прыбылі на старажытную Полацкую зямлю, каб удзельнічаць ва ўрачыстасцях па асвячэнню і Узвіжанню Крыжа, створанага па ўзору Крыжа Ефрасінні Полацкай.

26 верасня ў Полацкім Богаяўленскім саборы прайшла ўрачыстая служба, а 27-га зранку пачалася літургія і пакланенне Крыжу ў Крыжаўзвіжальным саборы Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра.

Цяпер Крыж па ўзору Узвіжальнага Крыжа Ефрасінні Полацкай, якому наканавана ў нашай гісторыі свая асаблівая місія, будзе заўсёды знаходзіцца ў Крыжаўзвіжальным саборы і будзе надзейна ахоўвацца, каб была выключана любая магчымасць яго выкрадання.

На асвячэнні Крыжа прысутнічаў прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг, які абяцаў спрыянне з боку дзяржавы ў вырашэнні праблем манастыра і ўсяго Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка.

НА ЗДЫМКУ: у час цырымоніі асвячэння Крыжа.

## КУЛЬТУРНАЯ СПАДЧЫНА ПАВІННА АБ'ЯДНОЎВАЦЬ, А НЕ РАЗ'ЯДНОЎВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ

Як мы ўжо паведамлялі, 4—5 верасня 1997 года ў Вільнюсе адбылася міжнародная канферэнцыя "Суіснаванне народаў і добрасуседскія адносіны — гарантыя бяспекі і стабільнасці ў Еўропе". У ёй прынялі ўдзел не толькі лідэры дзяржаў — афіцыйныя асобы, а таксама навукоўцы, сацыёлагі, палітыкі. На літоўскім саміце, у прыватнасці, выступіў вядомы навуковец, літаратар, грамадскі дзеяч Адам Мальдзіс — дырэктар Нацыянальнага навуковага цэнтра імя Ф. Скарыны ў Мінску.

Друкуем яго выступленне на 7-й стар.

*ЛЮБЫЯ СЭРЦУ МЯСЦІНЫ*

## СВІЦЯЗЬ: ЛЕГЕНДА І БЫЛЬ

Шмат у Беларусі цудоўных азёраў. Але Свіцязь своеасаблівае. Непаўторнае. Казачнае. Мне даводзілася бачыць яго ў розныя часіны года. Апошні раз пабыў на ім у самым канцы лета. І зноў з задавальненнем палюбаваўся яго харавством.

Дзень выдаўся сонечны. Лёгкі ветрык каціў па воднай роўнядзі дробныя хвалі, і яны серабрыліся ў ласкавых промнях.

Вельмі прыемна яшчэ раз наведаць мясціны, якія спадабаліся, якія ў сне бачацца. Калі зноў прыязджаеш да іх, адкрываеш нешта новае, чаго раней не прыкмячаў. Яно зліваецца з тым, што засталося ў памяці раней, — і яшчэ глыбей пазнаеш куточак роднай Беларусі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).



*БЕЛАРУСЫ НА СМАЛЕНШЧЫНЕ*

## БЫЛІ, ДЫ ЗВЯЛІСЯ

Першая праблема, з якой сутыкаліся пры подступах да тэмы беларусаў на Смаленшчыне, — колькасны характар: колькі ж іх пражывала ў гэтым рэгіёне Расіі? Здавалася б, што блізкасць размяшчэння да Беларусі, глыбокія гістарычныя сувязі не павінны ствараць падобных цяжкасцей. Аднак дакументы паказваюць, што мясцовыя ўлады так і не змаглі высветліць колькасць беларусаў на Смаленшчыне, хаця спробы рабіліся неаднаразова.

Таму сёння многія жыхары Смаленшчыны, магчыма, і не падазраюць, што ўводзілі ў зман дзяржаўныя органы, указваючы ў графе "нацыянальнасць": (рускі(ая). На самай справе зусім недалёка продкі іх — беларусы.

У пачатку стагоддзя ў грамадскіх і навуковых колах тэрмін "Беларуская Смаленшчына" ўжываўся пастаянна. У нашы дні многія жыхары іншых абласцей лічаць нас, смалян, беларусамі. У ліку першых мер савецкай улады па тэрытарыяльна-адміністрацыйнаму ўладкаванню была арганізацыя Заходняй вобласці (Камуны) у 1918 годзе, куды ўвайшлі Віцебская, Магілёўская, Смаленская губерні з цэнтрам у Смаленску.

У сярэдзіне XIX стагоддзя з 12 паветаў Смаленскай губерні пяць з насельніцтвам 507,6 тысячы чалавек значыліся вялікарускімі і 7 (575,6 тысячы чалавек) — беларускімі. Працы многіх рускіх і беларускіх вучоных пацвярджаюць наяўнасць на Смаленшчыне ў розныя гады шматлікага беларускага насельніцтва. У прыватнасці, акадэмік Я. Карскі ў пачатку стагоддзя налічваў у Смаленскай губерні каля 1 мільёна беларусаў, адзначаючы, аднак, працэс іх інтэнсіўнай русіфікацыі. У выніку перапісаў розных гадоў колькасць беларусаў называлася самая розная.

Ускладняюць вырашэнне гэтай праблемы і пастаянныя міграцыі беларусаў у 1915—1920-я гады, што стварала вядомыя цяжкасці для мясцовых органаў улады пры вызначэнні маштабаў культурнага будаўніцтва для беларускага насельніцтва Смаленшчыны ў гады савецкай улады. "На жаль, губАНА не мае дакладных даных адносна нацыянальнага складу губерні і аб ступені патрэбы іх у абслугоўванні на роднай мове. Асабліва гэта тычыцца беларускага насельніцтва, якое па апошняму перапісу (1926 год) не было поўнасцю выяўлена", — гаворыцца ў справаздачы губернскага аддзела народнай адукацыі.

Дакументы паказваюць, што карэнізацыя (перавод на родную мову) беларускіх устаноў, усяго быту беларусаў, што жылі на Смаленшчыне, аказалася найбольш цяжкім участкам нацыянальнай работы мясцовых органаў улады. Вось вытрымка з пратакола нарады па арганізацыі Савета асветы беларусаў, што праходзіла ў 1925 годзе: "...Па словах Агейчыка (першы загадчык беларускай секцыі пры Смаленскім губернскім аддзеле народнай адукацыі), маецца сто дваццаць тысяч, а па даных таварыша Ільенкі беларусаў няма. Далей Агейчык патрабуе адкрыцця каля 200 беларускіх школ, таму што, па яго словах, маецца каля 30 000 дзяцей. Але такая колькасць беларусаў няпэўная, і губАНА разаслаў цыркуляры для ўліку сапраўднай колькасці беларусаў, каб высветліць, ці трэба ствараць асобныя беларускія школы для іх. Агейчык — нацыяналіст, беспартыйны (!), неабходна яго замяніць партыйным таварышам". У гэтым палемічным дакуменце далей гаворыцца аб неабходнасці стварыць беларускую секцыю пры губАНА, хаця латышская і яўрэйская ўжо існавалі каля пяці гадоў.

На пасяджэнні Нацыянальнага Савета пры Прэзідыуме Заходняга аблвыканкома ў 1930 годзе было сказана: "Да гэтага часу адсутнічае дакладны ўлік беларускага насельніцтва ў Заходняй вобласці".

Калі правесці хаця б павярхоўны аналіз становішча на Смаленшчыне розных нацыянальнасцей, то ўзнікае яшчэ шмат пытанняў, напрыклад, аб параўнаўча малой колькасці беларускіх культасветустаноў у 20-я гады. З дакумента 1925 года відаць, што "ўсяго... па губерні яўрэйскае насельніцтва мела 6 хат-чытальняў, 10 чырвоных куткоў, 5 пунктаў ліквідацыі непісьменнасці, 1 клуб. Беларусы мелі... 3 хаты-чытальні, 3 чырвоныя куткі, 1 пункт ліквідацыі непісьменнасці. Латышы — 8 хат-чытальняў, 27 чырвоных куткоў, 1 клуб". А калі па статыстыцы колькасць яўрэйскага і беларускага насельніцтва больш-менш сувымерная, то колькасць латышоў, што пражывалі на Смаленшчыне, значна меншая.

У 1925 годзе быў створаны пры Смаленскім губАНА Савет па адукацыі беларусаў, які распрацаваў доўгатэрміновы план, куды ўваходзілі наступныя мерапрыемствы: "1. Скласці этнаграфічную карту беларускага насельніцтва Смаленскай губерні; 2. зрабіць улік беларусаў, тых, хто ведае, і тых, хто жадае вывучыць беларускую мову; 3. высветліць, якія школы можна перавесці на беларускую мову; 4. выкарыстаць студэнтаў-беларусаў у мэтах прапаганды і для правядзення... падрыхтоўкі насельніцтва да пераходу на родную мову;

(Заканчэнне на 5-й стар.).

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

МЕТРО СТАЛІЦЫ



1 кастрычніка ў Мінскім метрапалітэне адбыўся першы пробны пуск поезда ад станцыі "Трактарны завод" да "Аўтазаводская". Новы ўчастак другой лініі, у састаў якой увойдуць станцыі "Партызанская" і "Аўтазаводская", як вядома, павінен уступіць у строй 7 лістапада.

Мэр Мінска Уладзімір Ярмошын, які прысутнічаў на знамянальнай падзеі, выказаў упэўненасць, што гэты ўчастак метро агульнай працягласцю 3,5 кіламетра будзе здадзены ў намечаны тэрмін. Пры гэтым запэўніў, што ў першы дзень новыя станцыі па традыцыі будуць працаваць бясплатна.

НА ЗДЫМКУ: пробны электрапоезд.

*"У Саюза Беларусі і Расіі — агульная граніца на захадзе. Фактычна Беларусь прыкрывае Расію ў паветранай прасторы.*

*Адсюль наш бок ставіць цалкам зразумелае пытанне: калі беларуская сілы ППА прыкрываюць заходні рубеж абедзвюх дзяржаў — і Саюза ў цэлым, то, натуральна, і расходы тут павінны несці абедзве краіны.*

*Расійскі бок павінен удзельнічаць і ў агульных расходах па ўтрыманню самой заходняй граніцы Саюза, утрыманню мытнай службы на граніцы. Тут жа знаходзяцца і інтарэсы самой Расіі!*

*...За восем месяцаў гэтага года на ўтрыманне сістэмы проціпаветранай абароны расійскі бок "адваліў" нам толькі 2,45 мільярда іхніх рублёў. Па існуючых жа дамоўленасцях Расія павінна выдзеліць сёлета на гэтыя мэты 50 мільярдаў — такія абавязацельствы яна сама на сябе ўзяла.*

*Аднак і гэтая лічба моцна заніжана. Каб сістэма ППА знаходзілася ў належным стане, з боку Расіі, па нашых падліках, гадавы ўзнос павінен быць куды больш важкім — больш як 400 мільёнаў долараў. Гэта, дарэчы, не "разавае мерапрыемства", выдаткі тут павінны быць пастаяннымі.*

*Наш бок прапанаваў заключыць спецыяльныя пагадненні, каб такія расходы прадугледжваліся ў бюджэце фінансавання дзейнасці Саюза — па ўзаемнаму ўзгадненню. Але, як бачым, з расійскага боку ўзніклі праблемы: сродкаў на гэтыя мэты летась ён наогул не выдзяляў.*

*Цяпер аб тым, што датычыцца пагранічных войскаў. Тут Расія ў прынцыпе таксама згодная, што расходы павінны быць агульныя. Намі падлічана, што на ўпарадкаванне і ўтрыманне агульных нашых заходніх граніц Расія павінна была выдзеліць нашаму боку толькі ў 1996 годзе 65 мільёнаў долараў. З таго часу паступіла толькі зусім невялікая частка сродкаў.*

*Доўгія перамовы ідуць і па мытнай праблеме, хоць расійскі бок і абяцаў выдзеліць на гэтыя мэты 20 мільярдаў рублёў. Рашэнне ўрад Расійскай Федэрацыі прыняў, а рэальных сродкаў няма пакуль ні рубля, — і тут расходы сёння нясе адна Беларусь.*

*Калі ўсе гэтыя "нядоімкі" з боку Расіі скласці разам, то і атрымліваецца вельмі вялікая сума, куды большая за наш доўг".*

*(З інтэрв'ю намесніка міністра па справах Садружнасці Незалежных Дзяржаў Васіля ШАЛАДОНАВА карэспандэнту газеты "Звязда").*

VI ЕЎРАПЕЙСКАЯ

## ПРАБЛЕМЫ НАРОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

VI Еўрапейская канферэнцыя Міжнароднай арганізацыі па народнай творчасці (ІОV) па тэме "Народная культура ва ўмовах сучасных перамен у розных рэгіёнах Еўропы" праходзіла з 23 па 27 верасня ў Рэспубліканскім спартыўным комплексе "Раўбічы", што пад Мінскам.

Падобнае мерапрыемства ў гісторыі айчыннай культуры адбывалася ўпершыню, і месцам яго правядзення наша рэспубліка абрана не выпадкова. Беларусь — адна з няшмат краін Еўропы (ды і свету), што здолела да сённяшняга дня захаваць у першароднай чысціні даволі вялікі пласт сваёй аўтэнтычнай, традыцыйнай культуры, чым і прываблівае да сябе ўвагу такой арганізацыі, як ІОV.

Для ўдзелу ў канферэнцыі ў нашу краіну прыбылі Генеральны сакратар ІОV Аляксандр Вейгл, а таксама вядучыя навукоўцы і эксперты ў галіне народнай культуры з 16 краін свету, сярод якіх Германія, Галандыя, Украіна, Расія, Грэцыя, Кіпр, Балгарыя і інш.

Падчас правядзення канферэнцыі яе ўдзельнікі пазнаёміліся з выставай беларускага народнага касцюма, беларускіх народных інструментаў, твораў народных майстроў, наведалі Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту ў вёсцы Строчыцы, музей старажытнабеларускай культуры ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а таксама прыватны музей матэрыяльнай культуры "Дудуткі" ў Пухавіцкім раёне.

АВІЯЦЫЯ

## ПЕРАСЯДЗЕМ НА «БОІНГ»

Магчыма, ужо ў бліжэйшы час першыя самалёты вытворчасці кампаній "Боінг" і "Эрбас Індастры" пачнуць службу пад беларускім флагам.

Дзяржаўны камітэт па авіяцыі рэспублікі разглядае пытанне аб закупцы новай тэхнікі для выкарыстання на міжнародных лініях. Справа ў тым, што асноўныя тыпы расійскіх самалётаў канструктарскага бюро Тупалева, якія эксплуатуюцца ў Беларусі, ужо не адпавядаюць многім патрабаванням Еўрапейскай камісіі па грамадзянскай авіяцыі.

Зрэшты, гэта не азначае, што старыя машыны адправяцца ва ўтыль. У краіне распрацавана спецыяльная праграма, у рамках якой на Аршанскім і Мінскім авіярамонтных заводах будуць мадэрнізаваны 200 самалётаў "ТУ-134". У прыватнасці, на іх плануецца ўстанавіць новыя рухавікі вытворчасці акцыянернага таварыства "Пермскія маторы".

ІНФЛЯЦЫЯ

## ЦЭНЫ НЕ СТРЫМАЦЬ

Узровень інфляцыі ў краіне зноў стаў рэзка павышацца. Вызначаная для яго забаронная планка два працэнты за месяц была перавышана яшчэ ў сярэдзіне верасня. І, паводле апошніх даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, нягледзячы на рашэнне ўрада, за тры тыдні ўзровень інфляцыі дасягнуў трох працэнтаў.

Асабліва пасадзейнічаў гэтаму працэсу рост кошту паслуг жыллёва-камунальнай гаспадаркі рэспублікі. За гэты час яны падаражэлі ў сярэднім амаль на 20 працэнтаў. Да таго ж, цяпер даражэй каштуюць бульба, белакачанная свежая капуста, ялавічына першай катэгорыі, хлеб і хлебабулачныя вырабы, гарэлка, паслугі дашкольных устаноў, праезд у паяздах міжгародніх зносін. Не змяніліся цэны толькі ў сувязістаў, за карыстанне некаторымі відамі пасажырскага транспарту, на санаторна-курортны сервіс. Засталася ранейшай і плата за электрычнасць. Нязначна патаннелі рыс, сталовыя буракі, морква, рэпчатая цыбуля.

РАСТУЦЬ ТАЛЕНТЫ



Школьніцы Лена ФРАНЦУЗАВА, Наташа РАДОЎСКАЯ, Марта ХІТРЫКАВА і Каця ТРУСАВА займаюцца яшчэ і ў дзіцячай тэатральнай студыі Бялыніцкага цэнтра культуры. Яны вывучаюць сцэнічнае майстэрства, выразнае чытанне.

ПОГЛЯД ЗБОКУ

## ДЗЯКУЙ БЕЛАРУСІ

Шчырую ўдзячнасць за стварэнне спрыяльных умоў для татар, што жывуць на тэрыторыі Беларусі, для духоўнага і культурнага развіцця нацыі выказаў Прэзідэнт Татарстана Мінцімер Шаймієў у сваім звароце да беларускага Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі.

Аб падтрымцы, якую аказвае кіраўніцтва нашай краіны беларускім татарам, кіраўнік Рэспублікі Татарстан даведаўся на другім Сусветным кангрэсе татар, які прайшоў у Казані, дзе таксама прысутнічала і дэлегацыя з Беларусі. "Прадстаўнікі татарскага народа, — гаворыцца ў пасланні, — з падзякай адзначылі дапамогу, якую аказваюць ім у вашай рэспубліцы, асоба падкрэсліўшы, што гэта стала магчымым у выніку дэмакратычных пераўтварэнняў у Рэспубліцы Беларусь, якія праходзяць у апошнія гады.

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

## А. МАЛЬДЗІС — ЧАЛАВЕК ГОДА

Міжнародны біяграфічны цэнтр у Кембрыджы кожны год прысвойвае званне "Чалавек года". Яго атрымліваюць людзі, якія сталі вядомымі ў розных галінах навукі, культуры, літаратуры. У спісе гэтых славутасцей нямала і беларусаў. І, як стала вядома, надаўна ён папоўніўся.

З Англіі паступіла паведамленне, што "Чалавекам года" ў галіне культуралогіі стаў прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны доктар філалагічных навук прафесар Адам Мальдзіс. Ён аўтар 12 кніг, частка з якіх перакладзена на рускую, літоўскую, польскую, нямецкую, англійскую, славацкую і іншыя мовы.

ЖУРАВІНЫ БУЙНАПЛОДНЫЯ



Пачаўся збор журавін буйнаплодных на Каранёўскай эксперыментальнай базе Беларускага інстытута лесу ў Гомельскім раёне. Высаджаная тут некалькі гадоў назад доследная партыя ягад дала добры плён, і цяпер журавіны прыносяць высокія ўраджаі і на іншых плантацыях раёна. Ягад ужо збіраюць столькі, што хапае і на доследы, і на продаж насельніцтву.

КАНТАКТЫ З ДЫЯСПАРАЙ

## АБМЕРКАВАНЫ СУВЯЗІ З БЕЛАРУСАМІ ПОЛЬШЧЫ

У Дзяржкамітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцей адбылося пашыранае пасяджэнне, дзе абмяркоўваліся шляхі і магчымасці аказання далейшай дапамогі ў нацыянальна-культурным развіцці беларусам у Польшчы. Прысутныя — прадстаўнікі таварыства "Радзіма", міністэрстваў сувязі, замежных спраў, культуры, народнай асветы, Гродзенскага і Брэсцкага аблвыканкомаў, Дзяржтэлерадыё, Дзяржкамдруку, некаторых газет прааналізавалі прапанаваны план дзейнасці ў даным накірунку, выказалі свае заўвагі і меркаванні па асобных раздзелах.

Хаця ў краіне разгорнута і дзейнічае агульная праграма "Беларусы свету", праблем і складанасцей тут хапае. Прадыктаваны яны ў асноўным недахопам матэрыяльных сродкаў, неабходных для забеспячэння паўнавартаснай работы. Аднак што такая работа не толькі неабходная, але павінна пашырацца, выказаліся ўсе ўдзельнікі нарады, бо карысць тут агульная: для нашых суайчыннікаў у замежжы, якія будуць адчуваць больш цесную повязь з Бацькаўшчынай, і для самой Беларусі, чый культурны і духоўны патэнцыял ад такіх кантактаў толькі ўзбагаціцца. Дарэчы, кіраўніцтва камітэта выказала пажаданне атрымаць на гэты конт прапановы ад самой беларускай дыяспары, каб прааналізаваць іх, сістэматызаваць і ў далейшым абавязкова выкарыстоўваць у практычнай дзейнасці.

Калі казаць пра асобныя "балючыя кропкі", што хвалююць у рабоце з дыяспарай, дык тут, бадай, адна з найгалоўных — стварэнне трывалай сістэмы дастаўкі газет, часопісаў і кніг з Беларусі да нашых суайчыннікаў у іншых краінах. Усё ўпіраецца ў вялікую дарагоўлю паштовых выдаткаў і неадпрацаваны арганізацыйны працэс справы. Што тычыцца грошай, дастаткова прывесці некалькі прыкладаў: кошт беларускіх паштовых паслуг за дастаўку 1 кілаграма друкаванай прадукцыі ў Польшчу — 181 тысяча рублёў. Аднак гэта не ўсё: пасля трэба дадаць яшчэ 4,5 долара, устаноўленых ужо польскім бокам. Або яшчэ. Калі адпраўляць адзін нумар газеты "Голас Радзімы" ў гэтую суседнюю краіну бандэроллю, як нярэдка і робіцца, трэба заплаціць за кожную адзінку 17,6 тысячы беларускіх рублёў.

Нямала гаварылася на нарадзе пра стварэнне ўмоў для правядзення нармальнай падпіскі на газеты і часопісы. Нагадвалася таксама пра маючыя адбыцца ў снежні курсы мастацкай самадзейнасці, што будуць ладзіць разам таварыства "Радзіма" і Міністэрства культуры. Адзначалася, што зацікаўленых асобаў чакаюць новыя выпускі "Беларускага календара", кніг з серыі замежных беларускіх аўтараў, якія выходзяць у выдавецтве "Мастацкая літаратура", таксама да ведама прысутных было даведзена, што Скарынінскі цэнтр рыхтуе даведнік з адрасамі ўсіх беларускіх суполак у іншых краінах.

Мяркуючы па выступленнях прадстаўнікоў Брэсцкай і Гродзенскай абласцей, тамашнія мясцовыя ўлады гатовы аказваць пасільную дапамогу ў рабоце з замежнымі беларусамі і, у першую чаргу, з памежных краін. Трэба не толькі жыць побач, але быць разам.

Г. УЛІЦЁНАК.

## ПРАБЛЕМА: ЯК ЯНА ВЫРАШАЕЦЦА Ў ПРАВІНЦЫІ

**Не так даўно службу быту называлі службай добрага настрою. Карыстацца паслугамі хімчысткі, пральні, швейнага атэлье ўвайшло ў нас у звычку. Сёння ж людзям даводзіцца больш разлічваць на сябе і асабістую акуратнасць.**

**У перыяд пераходу да рынку пачаўся крызіс і ў сферы бытавога абслугоўвання насельніцтва. Асабліва моцны ўдар быў нанесены тагачаснымі рэформамі ў эканоміцы і сацыяльнай сферы. Служба быту "адпачывала", а рамонт абутку і рытуальныя паслугі былі, мабыць, адзіным, што карысталася попытам.**

**На Брэстчыне спахапіліся своечасова. Начальнік абласнога Упраўлення бытавога абслугоўвання Васіль РЭПЕКА расказвае:**

— Крызіс, вядома, не мінуў і нас. Сістэму бытавога абслугоўвання выконваюцца толькі на 20 працэнтаў ад узроўню 1990-га года. Атрымліваецца, што цэны "кусаюцца", а працуем усё роўна стратна.

— *Стабільнасць галіны напрамую залежыць ад дастатку народа. Ён сёння на нулі, попыт на паслугі і вырабы ў апошні час рэзка зменшыўся. Як вашы прадпрыемствы "трымаюцца на плыву"?*

— У пачатку 90-х гадоў на прадпрыемствах ішло такое скарачэнне штату, што, здавалася, бытавому абслугоўванню надышоў канец. Каб спыніць прастоі і даць людзям працу, кіраўнікі ўзялі ў банках крэдыты. Прычым, на кароткі тэрмін і пад шалёныя працэнты. А пакуль мы вязалі і шылі сваю прадукцыю, рынак запаланілі тавары з Польшчы, Турцыі і Кітая. Нашы вырабы сталі залежвацца на складах.

Цяжка і з абсталяваннем. За апошні час тэхналагічнае абста-

# БЫТ І РЫНАК

ляванне мы практычна не абнаўлялі. Гадоў пяць ужо ніхто нічога не купляў: на гэта проста няма сродкаў. Так і працуем на старых швейных, вязальных машынах.

— *У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь ад 21.06.96, у гэтым годзе павінна закончыцца прыватызацыя дзяржаўных прадпрыемстваў гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання. Але калі, згодна з гэтым Законам, кожнае падраздзяленне бытавога абслугоўвання, гарадское ці раённае, зробіцца самастойнай адзінкай, то ці не згубім мы бытавое абслугоўванне на вёсцы?*

— Я лічу, што на цяперашні перыяд раённыя камбінаты бытавога абслугоўвання павінны належаць дзяржаве. Абавязкова. Бо калі мы іх прададзім, то, сапраўды, з чым застанецца вяскоўцы? З 17 відаў паслуг, патрэбных вёсцы, мы і так аказваем сёння толькі пэўную частку. А тады не будзе і гэтага, як наогул і ніякай базы. На гэты конт мы накіравалі зварот у аблмаёмасць.

Што да буйных прадпрыемстваў, то выхад бачыцца адзін — стварэнне акцыянерных таварыстваў.

— *А ці не атрымаецца ў нас, як у Расіі, дзе пасля прыватызацыі ад службы быту ў многіх рэгіёнах засталіся адны толькі ўспаміны?..*

— Там дапусцілі грубую памылку, перавёўшы ўсё адначасова і незалежна ад жадання з дзяржаўнай у прыватную ўласнасць. Сёння ў Расіі ідзе работа па аднаўленні сферы бытавога абслугоўвання. Шмат дзе "бытоўкі" вызваляюцца ад падаткаў, устанаўліваюцца льготныя тарыфы на цепла- і электраэнергію. Але самае галоўнае: і ў Расіі, і ў Беларусі павелічэнне і пашырэнне аб'ёмаў паслуг магчымае толькі ў тым выпадку, калі будзе пераадолены эканамічны крызіс у краінах, з-за якога патэнцыяльныя кліенты службы быту сталі проста неплацежаздольнымі.

Пасля ліквідацыі ў 1990 годзе Міністэрства бытавога абслугоўвання мы фактычна не маем рэгламентуючага органа на дзяржаўным узроўні. Існуючы зараз Белбытсаюз — грамадская арганізацыя, і нават яе кіраўніцтва выбранае. А ў сённяшніх умовах патрэбна адзіная сістэма падыходу дзяржавы да сферы бытавога абслугоўвання. Тады і вырашаць праблемы будзе лягчэй.

гоўвання ўдалося захаваць у многім дзякуючы шэрагу мер з боку аблвыканкома. Так, у 1995 годзе сваім рашэннем аблвыканком абавязаў нас адкрыць комплексна-прыёмныя пункты ў кожным сельскім савеце. Гэта ўжо зроблена. Два апошнія гады сфера бытавога абслугоўвання вызвалена ад падатку на нерухомасць. У мінулым годзе мы не плацілі і падатак на прыбытак, сёння такой ільготы ўжо няма. На развіццё сацыяльна важных відаў паслуг і ўтрыманне сельскіх прыёмных пунктаў летась бюджэтам вобласці было выдзелена 1,5 мільярда рублёў, сёлетняя такая датацыя склала 3,2 мільярда рублёў.

Здолелі мы захаваць і сваіх партнёраў. Па-ранейшаму з Пінска і Слоніма паступае пража, з Магілёва — тканіна, з лясных гаспадарак — піламатэрыялы. Ну а астатняе, вядома, рынак. Праблем з сыравінай сёння няма, былі б грошы...

— *Васіль Міхайлавіч, сфера бытавога абслугоўвання першай пачала працаваць ва ўмовах рынку. Яшчэ на пачатку рынычных адносін вам было дазволена самастойна ўстанаўліваць цэны. Чаму яны сёння такія высокія?*

— У цэлым па вобласці яны не такія і высокія. Вядома, у гарадах тая ж стрыжка каштуе ў тры разы даражэй, чым на вёсцы. Бо вяскоўец проста не пойдзе ў цырульню за 30—40 тысяч. Трэба ж улічваць і ўзровень даходаў насельніцтва. Ніколі цэны ў Мінску не былі такімі, як у Брэсце, а ў Брэсце — як у Лунінцы. І так было заўсёды.

Цана фарміруецца з мноства фактараў. Дарэчы, цэны на так званыя сацыяльна значныя віды паслуг (рамонт абутку, цырульні, рытуальныя паслугі) сёння ўзгоднены з гарадскімі і раённымі выканкомамі. Практычна на ўсіх прадпрыемствах магутнасці не цалкам загружаны, і гэтыя выдаткі таксама ўключаюцца ў кошт. А падаткі! На электраэнергію, прыбавачную вартасць, зямельны падатак, арэнда... Трэба плаціць і зарплату людзям. Праўда, заробак нашых рабочых у цэнаўтварэнні ролі амаль не іграе. У сярэднім ён складае 900 тысяч у месяц, а ў сельскіх пунктах і яшчэ менш — 400—500 тысяч.

Калі раней у сістэме бытавога абслугоўвання вобласці працавала 15 тысяч чалавек, то сёння іх налічваецца крыху больш за шэсць тысяч. А аб'ёмы работ

**Святлана ШАБЛІНСКАЯ.**

# СВІЦЯЗЬ: ЛЕГЕНДА І БЫЛЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Так было і цяпер. Да бачаных малюнкаў дадаліся новыя. Прыгажосць Свіцязі незвычайная: то радасная, то сумнаватая, ціхая, а то і бунтарная. І не проста зразумець, што надае возеру такую прывабнасць, непаўторнасць. Можа, тое, што ў ім сабраны характэрныя рысы роднага краю.

Як душа беларуса, Свіцязь адкрытая і даверлівая. Ні ад кога не хавае яна сваёй прыгажосці. З якога берага ні глянь — возера ўсё перад табой. Яно амаль круглае, адусюль бачыцца як на далоні.

Колькі ні глядзі — не налюбуешся. Відаць, немагчыма адразу ўвабраць у сэрца красу гэтага цуда прыроды. Яно выразна акрэслілася ў маёй свядомасці. Прыязджаючы на Свіцязь, глядзіш на возера нібы ўпершыню, адкрываеш у ім для сябе новыя рысы. І застаюцца ў памяці назаўсёды яе празрыстая глыбіня, вузкая белая стужка пены каля берага, тонкая бярозка, што нахілілася да самай вады, нібы захацела памыць свае ніцыя галінкі, і чарацінка з запацістай страказой на мяцёлцы.



Возера нібы пакладзена сярод лесу. Ды так акуратна, што дрэвы не пашкоджаны. Яны нібы здзівіліся, адкуль яно ўзялося, і ў гэтым здзіўленні падаліся да яго, нахіліліся, цікаўныя, над вадой ды так і застылі. І стаяць у кучаравых шапках дубы, у зялёных хусцінках елкі, вясёлыя бярозкі, сарамлівыя рабіны — і не могуць налюбавацца Свіцяззю.



Мы прыехалі на возера з дырэктарам Навагрудскага лясгаса У. Цвіркам, галоўным лясніцым Э. Паўлюкевічам, інжынерам аховы і абароны лесу А. Кузьмічом. Яны былі зацікаўлены ў гэтай паездцы: возера і прылеглыя да яго тысячы гектараў лесу ў 1970 годзе аб'яўлены дзяржаўным ландшафтным заказнікам, даглядаць які даручана лясгасу. Мы абышлі возера, паглядзелі, у якім яно стане. Не ўсюды ўсё добра. Каля пансіяната "Свіцязь", дырэктарам якога ў пачатку года прызначаны А. Сакалоў, нядаўні старшыня калгаса імя Гастэлы, ураджэнец гэтых мясцін, парадак падтрымліваецца. А вось каля шашы, з заходняга боку возера, мякка кажучы, брудната. Тут і рэшткі вогнішчаў, і рознае смецце, і бітыя бутэлькі, бляшанкі ад кансерваў...

— Паглядзіце, што робіцца, — абураўся Уладзімір Казіміравіч. — Ці ж гэта людзі? Такую прыгажосць запаскуджваць!

Лес утрымліваецца ў добрым стане. Гэта адразу відаць, калі трапляеш на тэрыторыю заказніка. У ім дрэвы вышэйшыя і гусцей растуць. Сосны, елкі, дубы, бярозы — якія яны прыгожыя!



Даглядае заказнік Свіцязянскае лясніцтва, кіруе ім К. Сак. Чвэрць стагоддзя аддаў ён любімай рабоце. Шмат зроблена добрага. Закрыты праезд па дарогах заказніка. Спынена гаспадарчая дзейнасць.

— Вынесены з яго, — дадаў Уладзімір Казіміравіч, — розныя часовыя "домікі на копах", якіх панацягвалі сюды з усёй Беларусі. Стараемся ахаваць Свіцязь ад рознай брыды. Такое возера ў Беларусі толькі адно.

Так, возера унікальнае. Памеры яго невялікія: даўжыня 1,7, шырыня 1,6 кіламетра. Сярэдняя глыбіня тры, найбольшая — пятнаццаць метраў. Каштоўнае яно не толькі прыгажосцю, але і раслінасцю. У ім растуць прыбярэжнік аднакветкавы, палушнік азёрны, іншыя рэдкія віды. Некаторыя — аж з далёдавіковай флоры і флоры Сярэдняй Азіі. Гэта цетрадзініум яванікум, які сустракаецца толькі на востраве Ява. Захаваліся рэліктвы вышэйшай воднай раслінасці, сярод іх лабелія Дортмана. Свіцязь з навуковага пункту гледжання каштоўная яшчэ і таму, што на яе берагах у вельмі далёкія часы пасяліліся людзі. Каля вёскі Валеўка знойдзена стаянка позняга палеаліту.

Такая Свіцязь не магла застацца без людской увагі. Пра яе складзены легенды, паданні, вершы, паэмы, апісана яна і ў прозе слынных літаратараў. Вось адна з легенд (з кнігі "Дрэва кахання", скарочана):

"Пана Незабытоўскага, якому належала возера, зацікавіла, адкуль паступае ў яго вада. Вось ён і загадаў сваім сялянам пракапаць два каналы, каб спусціць з возера ваду. Адзін канал пракапалі ў бок вёскі Валеўка, ён злучыў возера з ракой Нёўдай (якраз у тым месцы, дзе быў пабудаваны млын), а другі — у бок вёскі Парэчча, да рэчкі Моўчадзь. Вада так пайшла па каналах, што ў вёсцы Валеўка затапіла некалькі хат...

Сляды тых каналаў відаць і цяпер. Але цікавасць да таго, адкуль паступае вада ў возера і куды яна дзецца, не пакідала пана. Незабытоўскі злавіў трох шчупакоў, акальцаваў іх і пусціў у ваду. На кольцах было напісана: калі хто зловіць шчупака, каб паклікаў пана на абед. Пана, вядома, больш цікавіла, дзе зловяць гэтых шчупакоў. Дык аднаго злавілі аж у Азяранах, каля Наваельні, а другога — у Калдычэўскім возеры пад Баранавічамі. Так пан даведаўся аб падземных крыніцах, што звязваюць возера Свіцязь з іншымі азёрамі".

Легенды — легендамі, паданні — паданнямі. Аднак яшчэ не выяўлена, адкуль паступае вада ў возера Свіцязь і куды выцякае. Цікава, што яе ўзровень у возеры застаецца ў любую пару года, у дажджлівае лета і засушлівае, — амаль аднолькавым.

— Вось толькі сёлета, — сказаў Уладзімір Казіміравіч, — вады крыху паменшала. Чаму — вырашаць навукоўцы.

Пабыць на Свіцязі — адпачыць душой.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: вось такая яна — Свіцязь; стэла з барэльефам А. Міцкевіча каля пансіяната.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

СТАРАЯ СЯДЗІБА



**Гэтая панская сядзіба стаіць на крутым беразе Сожа ў вёсцы Хальч Веткаўскага раёна. Узведзена яна больш за 200 гадоў таму назад. Цяпер гэта помнік архітэктуры, у будынку размяшчаецца філіял Гомельскага краязнаўчага музея.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# ХТО ТАКІЯ НАЦЫЯНАЛІСТЫ

Паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

У газеце № 32 за 7 жніўня 1997 года прачытаў я "Зварот да Прэзідэнта, парламента, народа Беларусі". Мяне ўстрывожыў зварот, і я адчуў знявагу. Чаму і каму прыходзіць да галавы пісаць вось гэткую няпраўду? Быццам нацыяналісты разбурылі "Вялікую Радзіму". Мне здаецца, што нацыяналістаў розных народаў, нацыянальнасцяў праз усе гады панавання Савецкай улады павысылалі ў Сібір або парасстрэльвалі, іх ужо не засталося. Не ведаю, што ў вашым разуменні ёсць паняцце нацыяналіст, але ўжываеце вы гэта слова як абразлівае. Не мной сказана, што кожны, хто любіць свой народ, мову і культуру, — ён і ёсць нацыяналіст. Хто жыў у Савецкім Саюзе хоць год, даведаўся, што кожны расеец ёсць большы нацыяналіст ад беларуса. На мой погляд, развалілі царскую Расею, а цяпер і СССР расейскамоўныя нацыяналісты, бо яны прымушалі іншамоўных людзей, каб скрозь было ўсё расейскае, усе мовы іншыя былі пазбаўлены пашаны і вартасці, пад прымусам уводзілі расейшчыну ва ўсіх сферах.

Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка паўтарае гісторыю, што была пры царскім рэжыме і што было пры Саветах. Усё беларускае ідзе ў паніжэнне: мова, сымболіка дзяржаўная. Пра гэта немагчыма маўчаць, бо думаць будуць іншыя, што няма каму бараніць сваю мову, свае звычаі і свае сымбалі. Думаць пачнуць, што ўсе ператварыліся ў чужынцаў і ворагаў беларускасці. Гэтак не ёсць. Беларусы любяць сваю мову, бо нават у чужыне размаўляюць беларускай мовай. Наша мова — наш скарб неацэнны.

Ізноў — пра якія славянскія народы ідзе гутарка? У Расіі ж шмат неславян, і тут рэшта народаў будзе абражана ўзвышэннем славян. На свеце ёсць славяне, яны незалежныя і ахоўваюць сваю незалежнасць ад згубы. Прэзідэнт Беларусі не хоча заходняга ўплыву, але народ краіны ведае, што на Захадзе лепшыя ўмовы жыцця, чым у Расіі. Закідаюць, што нацыяналісты-адшчапенцы любяць зялёны даляр. А хто ў Расіі не любіць гэтага даляра? Навошта ўпікаць беларуса за тое, што менш дастае гэтых даляраў ад расейца. Заклік да з'яднання постсавецкай прасторы — гэта заклік да савецкай імперыі зла і не што іншае. Каб вайны не было ў Еўропе, дык НАТО ёсць патрэбнае так, як калісь была патрэбна Арганізацыя З'ядналых Нацыяў.

Маё пытанне такое: колькі расейцаў Еўрапейскай Расіі супраць яднання Еўропы ў НАТО. Не думаю, што расейскі народ хоча быць ворагам цэлай Еўропы — НАТО. І выходзіць гэтак, што ўся Еўропа будзе належаць да НАТО, а Беларусь далучыцца да Еўра-Азіі, ізноў паўстане колішняя "бэрлінская сцяна". Гэта Беларусь будзе сцяной для Расіі. Вёў з многімі людзьмі размову, ад некаторых чуў, што ў Беларусі шантажуюць беларускамоўных людзей у аўтобусах і цягніках. Абражаюць беларускую мову і тых, хто размаўляе па-беларуску. Ці беларускія ўрадаўцы робяць захады ў абарону ад здзеку з беларусаў? Ці караюць тых, хто робіць насмешку з мовы? Бо калі дзяржаўныя ўстановы не бароняць беларускай мовы, дык якая ў Беларусі дэмакратыя?

Вось такія мае думкі, што не даюць спакою пасля таго, як прачытаў згаданы "зварот".

**К. ВЕРАБЕЙ.**

ЗША.

НАВІНЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

# ПАМЯЦЬ І БОЛЬ

На заходняй ускраіне мястэчка Радунь, што ў Воранаўскім раёне, знаходзіцца брацкая магіла, у якой пахаваны закатаваныя ў маі 1942 прыкладна 2 130 яўрэяў. Пастаўлены трэць стагоддзя таму назад на месцы іх вечнага спачыну сціплы абеліск з цягам часу адслужыў сваё. З улікам гэтага былы радунец, а зараз грамадзянін Ізраіля Адам Рагоўскі ўзяў на сябе клопат аб узвядзенні новага помніка. І вось нядаўна ён адкрыты. На жалобную цырымонію прыйшлі сотні жыхароў былога райцэнтра, прыехалі прадстаўнікі яўрэйскіх абшчын Гродна, Ліды, Іўя і іншых мясцін. Хвалюючыя словы пра нявінныя ахвяры фашызму сказалі старшыня Радунскага пасялковага Савета дэпутатаў Леанід Кусойць, першы сакратар пасольства Ізраіля ў Беларусі Галіна Кеслер, старшыня яўрэйскіх аб'яднанняў на Беларусі Леанід Левін і іншыя.

Затым над наваколлем прагучаў "Плач Ізраіля" ў выкананні скрыпача Міхаіла Дзвілянскага з Ліды. А напрыканцы адбылася памінальная малітва, якую вёў Давід Кац, прафесар Оксфардскага універсітэта.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ

# КАНСТАНЦІН КАЛІНОЎСКІ І ЯГО НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

"Вы, пэўне, зачулі, што цяпер устаноўлены Ронд Польскі, што гэты Ронд Польскі аддае вам без ніякага выкупу і чыншаў тую зямлю, на якой сідзелі вашыя бацькі і дзяды, што гэты Ронд Польскі дае вам праўдзівую вольнасць, як у пранцузаў, гдзе ніхто не смее крыўдзіць прастога чалавека, што гэты Ронд Польскі верне яшчэ вам вашу даўняшнюю справядлівую веру дзядоў і прадзедаў?!" У "Пісьме... да мужыкоў зямлі Польскай" "Ронд Польскі" таксама згадваецца неаднаразова.

Тут можна паўтарыць: сама "фірма" над назвай "Rzad Narodowy" ("Ронд Польскі" паводле тэрміналогіі К. Каліноўскага) афіцыйна абвясціла аб сваім існаванні толькі 10 мая 1863 года. То ці магла пячатка таго "ронду" або яго друкарні адціснуцца на "Мужыцкай праўдзе", 6 нумароў якой з'явіліся яшчэ ў 1862 годзе, а сёмы — трохі пазней, з некаторай затрымкай, але да канчатковага пераўтварэння ЦК у паўнапраўны "ронд"? А пра так званыя "Пісьмы з-пад шыбеніцы" гаворка ісці не можа, бо яны пры жыцці аўтара не публікаваліся. Мабыць, і аргументацыя тут непатрэбная. Як бачым, адсутнасць той пячаткі на дакументах, што "бясспрэчна зыходзілі ад К. Каліноўскага", не так складана і вытлумачыць. Тым больш, што на афіцыйных дакументах (такіх, напрыклад, як "Прыказы...", што таксама зыходзілі ад К. Каліноўскага) павінна была красавацца пячатка не друкарні, а той інстанцыі, якая давала ім жыццё і пускала ў свет.

Патрабаванне адраджэння Польшчы толькі ў межах 1772 года падкрэсліваецца непахісна ва ўсіх дакументах варшаўскіх улад. У "Гісторыі паўстання польскага народа..." А. Гілера (т. II, с. 411) апублікаваны цікавы зварот "Ронда Польскага" да народа:

"Еўропа не разумее дакладна болю нашага. (...). Нацыянальны ўрад (...), будучы пастаўленым ля руля паўстання, а гэтым самым на варце нацыянальнай ідэі, рашуча будзе адкідаць усё тое, што магло б апаганіць святы сцяг незалежнасці, застанецца глухім для ўсіх галасоў, якія заклікалі б скласці зброю перад дасягненнем канчатковай мэты, гэта значыць, адбудовай Польшчы ў граніцах 1772 года. Прыняць хаця б поўную незалежнасць для адной правінцыі польскай, а іншыя пакінуць на здзек ворагу значыла б адмовіцца ад гістарычных правоў сваіх, выціснуць дзесяць стагоддзяў існавання з гісторыі свету і, ажыццявіўшы гераічнае здзяйсненне, адмовіцца нарэшце ад уласнага імені. Не, Польшча не для таго ўваскрэсла, каб Еўропа пахавала яе ў новую труну.

Няма Польшчы без Літвы і Русі, як няма яе без Кароны. Агульная ў іх гісторыя, агульныя ўмовы палітычнага і грамадскага жыцця: гэта тройца непадзельная.

Права на існаванне прызнаваць адной толькі правінцыі, а адмаўляць яго іншым — гэта значыць, забіваць Польшчу!

Нацыянальны ўрад не дапусціць здзеку над гістарычным завяшчаннем Польшчы такой, якой яна была перад падзеламі".

Ніхто з польскага кіраўніцтва ніколі не абяцаў К. Каліноўскаму незалежнасці так званай Літвы. Змаганне вялося за адзіную і непадзельную Польшчу, дзяржаўны лад якое ў час паўстання ніхто не збіраўся прадвызначыць. Вырашэнне праблемы адкладвалася на перыяд пасля перамогі. І тым не менш К. Каліноўскі паслухмяна выконваў загады цэнтра, ва ўсёй дзейнасці няўхільна кіраваўся імі, заўсёды спасылаўся на іх.

А можа ён падпольна, хаваючыся, рыхтаваў дзяржаўны пераварот, паўстанне супраць варшаўскіх улад? М. Біч папракае ж мяне ў тым, што я абмінуў сведчанні В. Ратча і некаторых кіраўнікоў паўстання: "Многае з таго, чым карыстаўся В. Ратч, да нас не дайшло. І вось гэты аўтар сведчыць, што Каліноўскі (...) "настойліва праводзіў ідэю аб самастойнасці Літвы", што яго партыя "вырашыла канчаткова пазбавіцца ад варшаўскай апекі".

"Каліноўскі, — сцвярджае В. Ратч, — прымаў на сябе дыктатуру... Варшаўскі ўрад павінен быў ... атрымаць паведамленне, што Літва і Беларусь — самастойная дзяржава". Усё гэта, у тым ліку і цытаты з Ратча, — з артыкула М. Біча.

Што ўсё ж такі пра тую магчымую "самастойнасць" паведамляе В. Ратч? У яго і сапраўды ёсць выказванне, на якое спасылаецца даследчык. Але пры гэтым М. Біч не зусім уважліва абышоўся са сваёй першакрыніцай. Ён, напрыклад, заяўляе: "Аб накірунку дзейнасці К. Каліноўскага гаворыць і факт падрыхтоўкі новай пячаткі для віленскага паўстанцкага цэнтра з надпісам: Літоўскі Камітэт. Свабода. Роўнасць. Незалежнасць".

Дык што гэта быў за "накірунак" і аб чым сведчыў надпіс на пячатцы? Давядзецца яшчэ раз звярнуцца да выказвання Ратча. А ён, паведамляючы пра намер К. Каліноўскага стаць дыктатарам (!) і пазбавіцца ад "варшаўскай апекі", удакладняў: "Дело остановилось только за печатью, по изготовлении которой варшавский ржонд должен был, за подписью, выраженною штемпелем новой водворившейся власти, получить уведомление, что Литва и Белоруссия — самостоятельное государство" (Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России. Собрал Василий Ратч. — Вильна, 1867, с. 231).

На першы погляд, усё выглядае надзвычай сур'ёзна. А на самай справе? У першай палавіне ліпеня 1863 года і сапраўды была зроблена пячатка з надпісам: "Літоўскі Камітэт. Свабода. Роўнасць. Незалежнасць". Яе па заданні К. Каліноўскага выканаў разьбяр Генрык Штэйман (Генадзь Кісялёў. "З думай пра Беларусь". — Мінск, 1966, с. 156).

І што ж мы тут бачым? "Ронд Польскі" ў Варшаве ў свой час зацвердзіў пячатку з надпісам: "Нацыянальны Урад. Свабода-Роўнасць-Незалежнасць". У Вільні ствараецца пячатка з тэкстам: "Літоўскі Камітэт. Свабода-Роўнасць-Незалежнасць". Супадзенне надпісаў у пячатках ніяк не сведчыць аб незалежніцкіх намерах кіраўнікоў Літоўскага камітэта. А ў галоўнай частцы абедзвюх пячатак, зверху, мы чытаем: "Нацыянальны Урад" — "Літоўскі Камітэт". То можа тут схавалася думка пра самастойнасць? А чаму не з'явіўся там надпіс больш выразны: "Літоўскі ўрад" або "Літоўскі ронд"? А яшчэ ж аб чым сведчыць польская мова пячаткі? Ці маглі б мы сабе ўявіць, каб сённяшняя Літва заказвала дзяржаўную пячатку на польскай або рускай мовах?

"Астаноўка", пра якую паведамляў Ратч, усё ж такі была не за пячаткай, бо нават калі яе зрабілі, то нічога не змянілася. Ад сярэдзіны ліпеня 1863 года да канца студзеня 1864 года ніякая дэкларацыя аб незалежнасці так і не была абнародавана. А тое, што канфлікты і сапраўды існавалі, то гэта нічога не даказвае. Вельмі вострых канфліктаў хапала і ў самім варшаўскім кіраўніцтве, дзе неаднаразова адбываліся такія змены, якія Ю. Пілсудскі называў "дзяржаўнымі пераваротамі". Канфлікты тыя ніяк не былі абумоўлены адносінамі да нацыянальных праблем.

Як бы там ні было, але падпольныя друкарні на ўсёй тэрыторыі, ахопленай паўстаннем, абслугоўвалі Нацыянальны ўрад, служылі адной ідэі. Зусім не выпадкова беластоцкая падпольная друкарня, дзе паяўлялася на свет "Мужыцкая праўда", тагачаснымі дзеячамі называлася "друкарняй Нацыянальнага ўрада". А такія матэрыялы, як "Пісьмо..." або розныя "Прыказы", друкаваліся там, дзе ў той ці іншы момант была найбольш зручная магчымасць з улікам абставін, якія ўвесь час мяняліся і ўскладняліся ва ўмовах вайны і падпольнай дзейнасці, калі нешматлікім групам паўстанцаў супрацьстаяла і рэгулярная армія, і жандармерыя, і ўся грамадзянская адміністрацыя. К. Каліноўскі ў любой друкарні меў права надрукаваць сваю адозву. Вось так узаконеныя сёння трактоўкі, канцэпцыі і здагадкі не вытрымліваюць канфрантацыі з рэальнымі падзеямі і з'явамі той эпохі.

Генадзь Кісялёў, сумленна прааналізаваўшы шматлікія факты, зрабіў мужны вывад: "У любым выпадку, "Пісьмо ад Яська..." сведчыць яшчэ раз, як нялёгка прабівала дарогу ў XIX стагоддзі беларуская нацыянальная ідэя, як нялёгка, у пакутах і муках, беларускае "аддзіралася" ад польскага. У гэтым высокім сэнсе, па вялікім рахунку, "Пісьмо..." магло належаць і Каліноўскаму. Як — у такім выпадку — адно з паражэнняў, адно з адступленняў вялікага нашага рэвалюцыянера на яго слаўным, надзвычай важным для беларускага народа шляху" (Г. Кісялёў. "Здарэнне з Яськам-гаспадаром", с. 154). Гэта было не "паражэнне", не "адступленне", а адзін з канкрэтных і паказальных фактаў змагання за незалежнасць усёй Польшчы, якая не ўяўлялася без так званай Літвы.

М. Біч, спасылаючыся на розных аўтараў, упэўнена і катэгарычна піша аб "відавочнай неадпаведнасці польскага нацыяналістычнага духу "Пісьма Яські-гаспадара з-пад Вільні..." ідэям Каліноўскага, якія ён выказваў у "Мужыцкай праўдзе", "Лістах з-пад шыбеніцы", у "Запісцы", пададзенай следчай камісіі, і іншых дакументах" ("Нацыянальнае і аграрнае пытанні...", с. 37).

Ну што ж, звернемся да першакрыніц і пашукаем там рэальных звестак аб тым, каму і якой нацыянальнай ідэі служыў ён. Вось мы чытаем ў дакументах, напісаных ці самім Каліноўскім, ці пад яго кіраўніцтвам: "Ронд Польскі, паставіўшы мяне над вамі, вымагае (...), каб вы адно рабілі так, як вам ад Ронду Польскага будуць прыказываць." "...Хто проціў Ронду Польскага, таму агонь і шыбеніца." "...Ад імені Ронду Польскага прыказываю вам..." ("Прыказ" К. Каліноўскага. "Полымя", 1993, № 6, с. 225).

Нагадаю, што трохі раней, у "Мужыцкай праўдзе" № 4, ён пісаў: "...Не народ зроблены для ронду, а ронд для народу". А ўжо ў час паўстання ў "Прыказе ад Ронду Польскага (...) да народу зямлі Літоўскай і Беларускай" катэгарычна сцвярджалася: "...Вы да Ронду Польскага належыце..." Якому Каліноўскаму я павінен верыць? Дзе тут беларуская нацыянальная ідэя?

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 40.**

## РАСЦЕ МАЛЕНЬКІ ЧАЛАВЕК

**Кожны дзіцячы сад у Беларусі цікавы нечым сваім, адметным. Але для ўсіх характэрнае і нешта агульнае. Гэтае "нешта" — імкненне выгадаваць маленькага чалавека найперш здаровым і выхаваным.**

**Дзіцячаму саду Жыткавіцкага торфабрыкетнага завода, якому сёлета споўнілася 25 гадоў, можна пазайздросціць: хто б ні прыходзіў у яго калектыў, заўсёды пераймаў лепшыя традыцыі і станавіўся добрым выхавальнікам дзятвы.**





**НА ЗДЫМКАХ: на занятках лепкі — Таня КУПРАЦЭВІЧ; фізкультуру праводзіць Валянціна МІЦКЕВІЧ.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# БЫЛІ, ДЫ ЗВЯЛІСЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

5. прасіць губАНА паслаць настаўнікаў на курсы перападрыхтоўкі ў Мінск; 6. на падставе сабранага матэрыялу Савету распрацаваць канкрэтны план па адкрыцці беларускіх школ. Адначасова распрацаваць план палітыка-асветніцкай работы". Як бачым, план падрабязны і поўны, аднак ажыццяўляўся толькі абагульнена-спрошчаны яго варыянт. Аб тым, як гэта адбывалася, гавораць дакументы: "...Пытанне аб пасылцы ў Мінск настаўнікаў беларусаў на курсы па перападрыхтоўцы канчаткова высветлены: Губплан адмовіў нам у водпуску 1 000 рублёў... і мы пазбаўлены магчымасці паслаць настаўнікаў на курсы". Такім чынам, разам з указанымі вышэй ідэалагічнымі прычынамі існавала і прычына матэрыяльнага парадку, у якую пастаянна ўпіралася беларускае пытанне. Пацвярджае гэта дакумент аб становішчы беларускага зямляцтва: "ГубАНА хадайнічае перад НКА (Народны камісарыят асветы) БССР аб выдзяленні ў распараджэнне беларускага гарадскога зямляцтва навучэнцаў горада Смаленска сродкаў у памеры хаця б 500 рублёў у месяц... ГубАНА ж сродкаў для аказання грашовай дапамогі беларускаму зямляцтву не мае". Або дакумент, у якім гаворыцца аб мізэрным жалаванні работнікаў беларускай секцыі пры Смаленскім губАНА: "...Аклад жалавання работнікаў беларускай секцыі каля 40 рублёў у месяц (маштабы прыкладна супаставімыя з даперастроечнымі. — **Заўвага аўтара**). На такі аклад нельга атрымаць адпаведных работнікаў"..

Яшчэ аб адным пытанні ці аб адной з'яве гаворыцца ў дакументах — аб адносінах саміх беларусаў (у асноўным сялянскага насельніцтва) да сваёй нацыянальнасці, да сваёй мовы. Ёсць шматлікія факты запісу беларусаў як рускіх, нежадання іх вывучаць "мужыцкую" (г. зн. беларускую) мову. З даклада аб сетцы палітасветустаноў Смаленскай губерні 1928 года: "Адносіны нацыяналаў да рускай мовы добрыя. Што тычыцца адносін да роднай мовы, у асобных нацыянальнасцей яны розныя. Напрыклад, латышы вельмі ахвотна пасылаюць сваіх дзяцей у латышскія школы. Усяляк падкрэсліваюць прыналежнасць сваю да латышскай нацыянальнасці... Яўрэі ў гарадах, за выключэннем беднаты, ставяцца да школы на роднай мове рэзка адмоўна... Беларускае насельніцтва, у большасці сваёй, ставіцца індыферэнтна. Бываюць выпадкі актыўнага процідзеяння арганізацыі школ на роднай мове".

У чым жа прычына падобных адносін беларусаў да роднай мовы? Некаторыя мы разгледзелі вышэй. Але былі і іншыя. У дакументах 20-х—30-х гадоў маюцца шматлікія факты ўшчамлення інтарэсаў нацыянальных меншасцей на карысць карэннага насельніцтва, асабліва з боку ніжняга звяна мясцовай улады, пра што дакумент гаворыць наступнае: "Абслугоўванне ўстаноў нацмен ідзе галоўным чынам за кошт цэнтральных сродкаў, таму што мясцовыя бюджэты не паказалі гэтыя патрэбы, ... шэраг выканкомаў і гарсаветаў не адпускаюць на асветніцкую дзейнасць нацменшасцей прызначанага асігнавання,.. скарыстоўваючы гэтыя сродкі на іншыя мэты,.. вопыт мінулага года паказаў, што пасылаемыя НКА сродкі на курсы нацменработнікаў часта выкарыстоўваюцца на агульныя курсы".

Калі ў галіне асветы карэннай нацыянальнасці справа ішла, у цэлым, не бліскуча, то "...на жаль, у самых цяжкіх умовах апынуліся нацыянальныя ўстановы".

Практычная работа па ажыццяўленню вышэйпамянёнага плана, складзенага ў 1925 годзе, пачалася толькі ў 1927 годзе ў пагранічных з БССР раёнах, у асноўным метадамі кампанейшчыны. Бадай, абагульненую карціну з'явы прадстаўляе дакладная запіска загадчыка Шумяцкага райАНА ў Смаленскае аблАНА: "У 1927 годзе ў Шумяцкім раёне адкрылі 11 беларускіх школ,.. пачалі пераводзіць заняткі на беларускую мову і насаджаць беларускія школы, што адбывалася з вялікім супраціўленнем навакольнага рускага насельніцтва".

Дзеля справядлівасці варта сказаць, што былі і іншыя прыклады, калі "вучні ахвотна займаюцца на беларускай мове, ...беларуская школа мае аўтарытэт, і стаўленне насельніцтва да добра працуючых школ мяняецца да лепшага". Такіх была меншасць, трымаліся яны на энтузіязме зацікаўленых людзей. Становішча спраў ускладнялася тым, што беларускія настаўнікі пасылаліся на працу ў рускія школы і наадварот. З пісьма настаўніка І. Варанога ў Смаленскі АНА: "Настаўнікам у рускую школу не пайду, лепш звольніце, таму што да канца хачу застацца ў беларускай школе".

Прыведзеныя вышэй прыклады наводзяць на думку аб несур'ёзнасці, дакладней, безадказнасці, некампетэнтнасці работнікаў на месцах, няўменні ці нежаданні прадстаўнікоў мясцовых органаў старанна ўнікаць у сутнасць складаных і далікатных праблем, звязаных з нацыянальнай работай. І дакументы пацвярджаюць гэта: "Нізавыя савецкія органы... ні клопату, ні цікавасці да асветніцкай сеткі нацмен не выяўляюць, школьная сетка працуе выключна дзякуючы намаганням і клопатам насельніцтва і настаўніка... У той час, як некаторыя рускія школы маюць у спадчыну ад старой школы абсталяванне і памяшканне,.. нацменаўскія школы... нічога гэтага не маюць". У рэзалюцыі X з'езда інспектур АНА (1932 год) адзначаюцца наступныя недахопы: "...Недаацэнка важнасці культработы сярод нацменшасцей з боку гаспадарчых органаў,.. абсалютная бяздзейнасць Абласнога зямельнага ўпраўлення, фінансавага ўпраўлення па абслугоўванню нацыянальных меншасцей... Выпадкі абуральных адносін раёнаў да прадстаўлення звестак і справаздач аб рабоце сярод нацменшасцей". Дарэчы, аб справаздачнасці. Справа ў тым, што ў розных органах савецкай улады існавала цэлая градацыя ў сістэме справаздачнасці. Усё залежала ад таго, адкуль і куды пасылаўся дакумент. Вышэйстаячы орган пасылае грозныя вокрыкі, сыпле громы і маланкі ў ніжэйстаячыя, патрабуючы ў нерэальна кароткі тэрмін "паправіць становішча спраў". Калі ж дакумент ідзе ў вышэйстаячыя арганізацыі, рэзкія фармулёўкі замяняюцца эўфемізмамі, "недапушчальнае становішча спраў" нейкім незразумелым чынам ператвараецца ў "значныя дасягненні". У выніку карціна з'явы рэзка скажаецца, і да многіх дакументаў даводзіцца ставіцца насцярожана. Вось, напрыклад, што стаіць за справаздачным радком афіцыйнага дакумента аб дасягненнях у нацменрабоце: "Руднянская дзевяцігодка лічыцца беларускай, але ні па складу, ні па мове выкладання такой прызнана быць не можа. Памяшканні для 700 вучняў ніякім чынам свайму прызначэнню не адпавядаюць, класныя пакоі цесныя, навучальных дапаможнікаў... няма, старэйшыя групы амаль не маюць падручнікаў. Ні палівам, ні авансам на вучэбныя і гаспадарчыя патрэбы, ні зарплатай школа не задаволена, што павялічвае і так цяжкае становішча яе,.. з 16 беларускіх школ толькі 8 працуюць на беларускай мове". Менавіта па гэтай прычыне аўтар не прыводзіць шматлікія лічбы аб наяўнасці беларускіх устаноў на Смаленшчыне, хаця такія сапраўды меліся.

Што ж з'явілася першапрычынай недахопаў у нацыянальнай рабоце — палітыка цэнтра ці памылкі і скажэнні яе на месцах? Відавочна, мела месца тое і другое.

Дзеянні малакампетэнтных мясцовых органаў часта былі вынікам палітыкі высокіх інстанцый, якія дэкларавалі адно, а на справе ж імкнуліся зусім да іншага. Агульная стратэгія партыі на карэнізацыю нацыянальных меншасцей, выпрацаваная і ўзятая на ўзбраенне ў пачатку 20-х, у 30-я гады, вычарпала сябе, паказаўшы нацыянальнай інтэлігенцыі, наколькі тая памылялася, лічачы "карэнізацыю" не тактыкай, а стратэгіяй партыі.

Але прычыны няправільных дзеянняў мясцовых органаў часта мелі і самагодны характар. Дакументы дазваляюць зрабіць вывады, што меў месца разрыў паміж заканадаўствам цэнтральных органаў і яго ўвасабленнем на розных узроўнях. Гэта прыводзіла да таго, што дырэктыўныя дакументы, часта змястоўныя і рацыянальныя па сутнасці, даходзілі да месцаў у скажоным выглядзе, а недахоп агульнай і палітычнай культуры выканаўцаў на месцах істотна змяняў як сутнасць гэтых устанаўленняў, так і рэалізацыю іх. З даклада аддзела нацыянальнасцей УЦВК аб стане карэнізацыі савецкага апарату і падрыхтоўкі савецкіх, гаспадарчых кадраў па Заходняй вобласці: "Маюцца добрыя пастановы па рабоце сярод нацыянальнасцей кіруючых органаў, але выконваюцца яны дрэнна". Да таго ж некаторыя партыйныя і дзяржаўныя дзеячы розных узроўняў у прынцыпе праціўіліся (пра што ўпаміналася вышэй) карэнізацыі беларускіх органаў. Ёсць дакументы, што напрамую гавораць пра гэта: "Прызнаць як недахоп адсутнасць адказнасці за нацыянальную работу партарганізацый і асобных работнікаў... Работа па культурнаму абслугоўванню нацменшасцей сустракае скептычныя адносіны з боку савецкіх работнікаў".

Агульнакультурны, прафесійны, палітычны ўзровень партыйных і савецкіх работнікаў, што ажыццяўлялі нацыянальную палітыку на месцах, быў жудасна нізкім. Дакументы, напрыклад, гавораць "...аб грубым парушэнні канстытуцыі з боку старшыні Ляхаўскага сельсавета, што выявілася ў знявазе і вобыску калгаснікаў"; "Старшыня Рабчаўскага сельсавета Юдзін, узначальваючы брыгаду пеньканарыхтоўкі, практыкаваў незаконныя штрафы, збіванне грамадзян, ...члены сельсавета са сваімі правамі і абавязкамі незнаёмыя".

Невысокім быў і ўзровень культработнікаў, якія абслугоўвалі школы і іншыя ўстановы нацмен: "Кваліфікацыя работнікаў асветы, што абслугоўваюць беларусаў, вельмі нізкая, значна ніжэйшая, чым па вялікарускай лініі. У нацыянальных школах першай ступені амаль адсутнічаюць настаўнікі, якія скончылі педтэхнікумы ці са спецыяльнай адукацыяй"; "Выкладчыцкі склад патрабаванням ШСМ (Руднянскай беларускай школы сялянскай моладзі) не адпавядае,.. выкладчыкі, якія не валодаюць беларускай мовай, не павышаюць сваёй кваліфікацыі,.. настаўнікі не падрыхтаваны да ўрокаў",.. хата-чытальня ніякай работы па прапагандзе беларускай мовы не праводзіць".

Стан нацыянальнай работы ў значнай ступені вызначаўся цяжкім эканамічным становішчам краіны. І дакументы пра гэта гавораць зусім пэўна, але нельга толькі гэтым тлумачыць спад нацыянальнай работы ў пачатку трыццатых, а потым і фактычнае яе спыненне.

Аб выніках гэтай работы, аб стане беларускіх органаў сацыяльнага выхавання і палітасветы ў сярэдзіне 30-х дакументы гавораць наступнае: "У выніку абследавання выяўлены выключна дрэнны стан нацыянальных школ... Сельсаветы, раённыя арганізацыі і аблАНА мала займаюцца гэтымі пытаннямі... Адзначана наяўнасць шэрагу скрыўленняў у пытаннях правядзення карэнізацыі беларускіх школ, што выяўляюцца ў штучнай і непадрыхтаванай беларусізацыі". "У сучасны момант (1935 год) беларускія школы фактычна заняткі праводзяць на рускай мове", "У Бярэзінскай беларускай школе, размешчанай за 3 кіламетры ад БССР, выкладанне вядзецца на змешанай мове, што тлумачыцца слабымі ведамі беларускай мовы выкладчыкамі". Аналіз дакументаў паказвае, што ў сярэдзіне 30-х большасць беларусаў, якія пражывалі ў заходніх раёнах Заходняй вобласці, гаварыла альбо на чыста рускай мове, альбо з больш-менш значнай прымессю беларускіх слоў. "...Насельніцтва, што акаляе беларускія школы, не раз узнімала пытанне аб закрыцці беларускіх школ, бо дзеці яе зусім не разумеюць, настаўнікі, за рэдкім выключэннем, літаратурнай мовы не ведаюць", — гаворыцца ў вытрымцы з матэрыялаў абследавання беларускіх школ Шумяцкага раёна. Прыкладна такія ж вынікі адлюстраваны ў дакладной запісцы загадчыка Гардзееўскім райАНА: "...Калгаснікі патрабуюць такой школы, якая вучыла б іх на рускай мове арганізаваць гаспадарку, а не моваывучэнне. Я лічу,.. што нам час перастаць здзекавацца з беларускай культуры і калечыць дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову толькі для таго, каб, як кару, дражніць беларускімі словамі таварышаў па школе. Настаўнікі па-беларуску размаўляюць толькі ў школе. У савеце, хаце-чытальні, на бацькоўскім сходзе, на сходзе ў брыгадзе настаўнік вядзе работу на рускай мове і, калі скажа на беларускай, то грамадзяне папраўляюць — "это тебе не в школе".

Такім чынам, на ход і вынікі работы мясцовых органаў па карэнізацыі нацыянальных меншасцей, у прыватнасці, беларускага насельніцтва, паўплываў шэраг аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў ідэалагічнага, матэрыяльнага, культурнага парадку.

Бадай, завяршаючым акордам у нацыянальнай рабоце была пастанова Смаленскага аблвыканкома ад 14 жніўня 1938 года, у якой гаварылася: "...Прадстаўлены аблАНА спіс нацыянальных школ, намечаных да рэарганізацыі ў савецкія школы звычайнага тыпу... зацвердзіць..." Далей ідзе пералік апошніх дзесяці нацыянальных школ, сярод якіх беларускіх ужо няма.

**Анатоль КОРСАК.**

г. Смаленск.

*ТЭАТР КОТАВА: БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКІ ПРАЕКТ*

# «НЕ ПЕРАСТАНЕМ ТАЛЕНТУ ЗДЗІЎЛЯЦЦА»

Так сказаў адзін з вядомых дзеячаў беларускай эміграцыі ў ЗША, пісьменнік, журналіст, доктар гістарычных навук, суайчыннік з Нью-Йорка Янка Запруднік аб балетмайстры пяці калектываў самадзейнага харэаграфічнага жанру Міколе Котаве, пад кіраўніцтвам якога яны былі ўдастоены вышэйшага дзяржаўнага тытула "народны".

— Шмат разоў бачыў яго на сцэне і кожны раз успамінаў несмяротнага Ігната Буйніцкага. Котаў не толькі выдатны артыст, але стваральнік і кіраўнік некалькіх калектываў фальклорна-танцавальнага ўзору. Вельмі крыўдна, што сапраўды таленавіты чалавек маральна не падтрыманы дзяржавай, — такое рэзюме выказаў у свой час Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь народны паэт Ніл Гілевіч. Але...

Два гады запар суправаджае па гістарычных мясцінах рэспублікі амерыканскіх суайчыннікаў, працуючы зараз мастацкім кіраўніком фальклорнага ансамбля беларускага саюза фальклярыстаў, Мікола Котаў. І ён вельмі даспадобы прыйшоўся гасцям сваёй неўтаймаванай весялосцю, выкананнем самабытных беларускіх танцаў, абрадавых карагодаў, гумарыстычных прымавак і прыпевак на прывалах і імправізаваных сцэнах. І заўсёды з бубнам над галавой.

— Усё гэта вельмі зачаравала нас. І мы ўдзячныя таму, што бруіцца яшчэ на роднай зямельцы чысцюткі ручаёк бацькоўскай спадчыны. А для беларусаў замежжа выключна важна стаўленне да нацыянальнай культуры, народнай творчасці, аўтэнтычнага фальклору і ў першую чаргу да мовы, — выказаў агульную думку беларусаў спадар Янка.

І гэта не выпадковае выказванне, бо за яго плячыма найвялікшы навукова-творчы плён, прысвечаны роднай Бацькаўшчыне. Ён паўсядзённа турбуецца-клапоціцца аб ёй, дзе б ні працаваў. Янка Запруднік напісаў фундаментальную кнігу "Беларусь на гістарычных скрыжаваннях", у якой змешчана больш за 400 артыкулаў па гістарыяграфіі, культуры, нацыянальных меншасцях, палітычных партыях, рэферэндумах. Зараз працуе над стварэннем альбома, прысвечанага беларускім мастацкім выставам у Амерыцы.

Калі прыспеў час развітання, то адбылася сяброўская вячэра на кватэры ў Міколы Котава. Хоць гэта была і прыватная сустрэча, але Мікола ў сваёй кватэры сустрэў іх і хлебам-соллю, і дзявочым карагодам. Асабліва ўразілі гасцей вершы, якія так узнёсла, сардэчна-шчыра прачытаў аўтар Алесь Пісарык:

**Беларусь навекі маладая,**
**Гордая адвагай даўніны.**

**Наша спадчына нам не сплачана,**
**Наша спадчына — доля матчына,**
**Наша спадчына —**
**ты не паншчына,**
**Наша спадчына — долю ўбачыла.**

**Што за народ без каранёў,**
**Які жыве, як давядзецца.**
**І неразважліва адмёў**
**Усё, што спадчынай завецца.**

**Можа ёсць недзе мова гучней**
**і зычней, —**
**І яна даражэй для кагосьці!..**
**Паважайце маю, і я стану радней**
**Для ўсіх вас, пабрацімы і госці.**

— Людская памяць захавала і зберагла мноства каштоўных народных традыцый, мастацкіх скарбаў, дзівоснага хараства, перадаючы іх з пакалення ў пакаленне як неацэнную спадчыну і запавет нашчадкам, — прадоўжыў размову Мікола Котаў.

**І песню родную люблю я,**
**Што ў полі дзеўкі запяюць,**
**А тоны голасна над нівай**
**Пераліваюцца, плывуць.**

— І калі замежны беларус засвоіць бацькоўскую спадчыну, то яго не пакіне гордае ўсведамленне, што ён належыць да народа, імя якога трэба несці высока, як сцяг, — падтрымала размову Рэня Касцюк з Саўт-Рывера. — І будзе гучаць у яго сэрцы неўміручая народная мелодыя.

**Люблю наш край, старонку гэту,**
**Дзе я радзілася, расла,**
**Дзе першы раз пазнала шчасце,**
**Слязу нядолі праліла...**

— Для нас незалежна ад месца, дзе жывём, вельмі важна зберагчы родныя песні, песні мілай сэрцу Бацькаўшчыны, — усхвалявана сказаў наш амерыканскі суайчыннік, арганізатар паездкі Жорж Навумчык.

— На сваёй роднай зямлі, — не ўстрымалася Стася Дашкевіч, — хочацца яшчэ і яшчэ ўспомніць запавет вялікага Купалы: родная песня і роднае слова — калі разумець іх як духоўны набытак і мастацкі скарб нацыі — дапамогуць хутчэй вывесці сваю Бацькаўшчыну ў людзі, да блізкіх і далёкіх суседзяў, каб у цэлым свеце яе зналі і шанавалі, паважалі як роўную сярод роўных.

— Ці ж я скажу штосьці новае. Але фальклор мае найвялікшае значэнне для духоўнага адраджэння нацыі, — падключылася да размовы Стэфані Міровіч.

Колькі цёплых, удзячных слоў было выказана ў той вечар Адольфам Суботам, Стасяй Ямскай, сям'ёй Дубягаў, Алегам Васянскім аб гасціннасці роднай зямлі.

На правах гаспадара Мікола падзяліўся запаветнай марай стварыць у рэспубліцы фальклорны тэатр.

— Калі дзеці з малых гадоў, з першых класаў школы будуць ведаць паэтычную творчасць народа, у іх з'явіцца пачуццё любові да Бацькаўшчыны. Таму мы хочам, каб у іх абудзілася цікавасць і павага да паэтычнай народнай творчасці.

Мікола Котаў падрабязна расказаў аб сваім праекце.

— Вусна-паэтычная творчасць для тэатра з'явіцца фундаментальнай асновай. У ім будуць прадстаўлены ўсе жанры: песні, танцы, паданні, легенды, замовы, выслоўі, загадкі,



М. КОТАЎ (на пярэднім плане) сярод удзельнікаў ансамбля народнай творчасці Мінскага маторнага завода.

прыказкі, прымаўкі, быліны, анекдоты, казкі. На сцэне і ў прыродным асяроддзі будуць дэманстравацца ўсе віды народна-абрадавага календара: велікодныя, пятроўскія, юр'еўскія, жніўныя, вясельныя, радзільныя дзеі і відовішчы.

Для ўвасаблення задумы ў тэатр запрошаны знаўцы фальклору: заслужаныя дзеячы культуры Васіль Купрыяненка і Уладзімір Пузыня, адметныя выканаўцы народных песень і музыкі Марына Патаповіч, Анатоль Семчык, паэт Алесь Пісарык. Ажыццяўляць навукова-практычную аснову даў згоду кандыдат навук, выкладчык Белдзяржуніверсітэта, старшыня Беларускага саюза фальклярыстаў Васіль Ліцвінка.

Музычны фон тэатральных пастановак будуць забяспечваць выканаўцы на разнастайных народных інструментах — цымбалах, скрыпках, жалейках, дудках, чароце, бубнах, гармоніках. Незвычайная сама назва тэатра — "Бераг белых буслоў". Незвычайная таму, што ў мікрараёне Малінаўка прыжыліся перасяленцы з Гомельшчыны, з чарнобыльскай зоны, дзе буслы заўсёды былі сімвалам спакою, дабрыні, ласкі, пяшчоты і найвялікшай беражлівасці традыцыйнай палескай прыгажосці з чысцінёй прыроды і народных традыцый.

Гэты маналог зачараваў гасцей-суайчыннікаў. І яны пагадзіліся, каб гэтаму тэатру надаць статус міжнароднага — беларуска-амерыканскага.

— І тады наша дыяспара зробіць свае інвестыцыі для яго станаўлення і развіцця, — падагуліў размову Янка Запруднік, — бо жывое паэтычнае слова, спалучанае з цудоўнай мелодыяй, танцам, інтэрмедыяй, здольнае раскрыць хараство і багацце народнай душы, дапаможа ўмацаваць веру ў шчаслівую будучыню нашай роднай Бацькаўшчыны.

**Адольф СУРЫНОВІЧ.**

*ГАРАДОЧЧЫНА — РАДЗІМА «ТАРАСА НА ПАРНАСЕ»*

# ВЯРТАННЕ КАСТУСЯ ВЕРАНІЦЫНА

Найбольш верагодным аўтарам знакамітай паэмы "Тарас на Парнасе" (пра гэта вядома ўжо не толькі вузкаму колу спецыялістаў-літаратуразнаўцаў) узровень сучаснай даследчыцкай думкі дазваляе назваць Кастуся Вераніцына, які нарадзіўся ў вёсцы Астраўляны цяперашняга Гарадоцкага раёна, скончыў мясцовае пачатковае вучылішча, Віцебскую гімназію, пэўны час вучыўся ў Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі і нарэшце, у 1859 годзе, скончыў Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Пра ўсё гэта захапляюча і, як заўсёды, досыць пераканаўча расказаў у сваіх даследаваннях "Пошукі імя" (1978) і "Разыскивается классик..." (1989) старэйшы беларускі літаратуразнаўца-архівіст Генадзь Кісялёў.

Напрыканцы верасня ў раённым цэнтры Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці ўпершыню была запланавана літаратурна-краязнаўчая канферэнцыя "Паэма "Тарас на Парнасе": здабыткі і праблемы". Арганізатарамі канферэнцыі сталі Гарадоцкая рада Таварыства беларускай мовы і Гарадоцкі раённы аддзел адукацыі.

Канферэнцыю наладзілі выключна сіламі гарадоцкіх настаўнікаў і іх вучняў: з 13 уключаных у праграму выступленняў — 11 былі мясцовыя; а з ліку апошніх ажно дзесяць падрыхтавалі вучні гарадоцкіх і суседніх з раённым цэнтрам школ. Усё прайшло арганізавана і годна: нават школьнікі-слухачы не былі абыдзены ўвагай, не кажучы пра іх калег-дакладчыкаў, якія за свае паведамленні атрымалі заахвочвальныя "прызы" — па 30 тысяч рублёў. Было таксама арганізавана конкурснае журы. Перад ім паставілі задачу назваць лепшыя вучнёўскія даклады. У выніку абмеркавання адабрана 4 даклады старшакласнікаў (дакладней, старшакласніц): Рудовай Марылькі, Шапурынай Ірыны, Маёравай Вольгі і Шульгі Таццяны з узнагароджаннем па 100, 80 і дзве апошнія па 50 тысяч рублёў адпаведна.

Ды грошы не галоўнае: з гэтымі дакладамі вучні гарадоцкіх школ выступяць ужо на міжнародных літаратуразнаўчых чытаннях "Паэма "Тарас на Парнасе" і праблема



яе аўтарства" (запланаваны на 8—9 кастрычніка 1997 года тамсама ў Гарадку). І калі міжнародныя чытанні ладзіць Віцебскі дзяржуніверсітэт, дык гарадоцкую канферэнцыю арганізаваў практычна адзін чалавек: старшыня Гарадоцкай рады ТБМ, дырэктар Вархоўскай базавай школы Лявон Гаравы. Па выніках канферэнцыі спадар Гаравы абяцаў выдаць прэс-рэліз.

Але пакуль апошні выйдзе, хочацца пазнаёміць шырэйшае кола чытачоў з вытрымкамі з паведамлення Ірыны Шапурынай, вучаніцы 11 класа Гарадоцкай СШ № 2 на тэму "Хараство і багацце мовы знакамітай паэмы":

"Ёсць у беларускай літаратуры творы, пачуўшы радкі з якіх, адразу, не задумваючыся, назавем назву. Сярод такіх твораў вядомая ўсім нам паэма "Тарас на Парнасе"... Шчыра верыцца, што такую цудоўную паэму мог напісаць толькі наш зямляк Канстанцін Вераніцын. Яму і яго найцудоўнейшаму Тарасу і прысвячаецца наступны верш.

**Гонар, слава нашай**
**Гарадоччыне!**
**Слаўны чалавек з'явіўся ў нас.**
**З астраўлянскіх хлебных**
**ніў і гоняў**
**Ён ўзбіраўся на гару Парнас.**

**Падглядзеў і добра ўсё**
**прыкмеціў,**
**Землякам сваім ён расказаў,**
**Што рабілася на тым**
**Парнаскім свеце,**
**Так выразна ён намаляваў.**

**Ну, кажа, як у Астраўлянах,**
**Каровы, свінні, бараны.**
**Ды толькі людзі штось не тыя,**
**Крыху распутныя яны.**
**Смяюцца, пляшуць,**
**задам круцяць,**
**Ой,.. дужа ж любяць пагуляць.**
**Таксама смачненька паесці**
**Ды і на печы паляжаць.**

**А ежа! Што за цуда — ежа!**
**Крупеня, як у Гарадку.**
**Гарэлка, як у Астраўлянах,**
**Салодкая і без мядку.**

**Спявалі там і песні нашы,**
**"Мяцеліцу" і "Казака",**
**Плясалі вельмі ўжо заўзята,**
**Аж кроў іграла ў дзецюка.**

**А мова!.. Шчыра прызнаюся:**
**Яе пазналі сходу мы:**
**А-ей! Авохці мне! Авой я!**
**Ляцелі словы з той гары.**

**Лагодна, шчыра, мілагучна**
**Плыла гаворка між багоў**
**На нашай гарадоцкай мове,**
**На мове родных берагоў.**

**Не сорамна было й Тарасу**
**Прызнацца, хто ён і адкуль.**
**Тут шмат пачуў ён і убачыў,**
**На гары гасціў пакуль.**

**А ўсё ж галоўнае —**
**што ён вярнуўся**
**На сваю родную зямлю.**
**Я гэтым шчыра ганаруся**
**І ад душы яго люблю!**

Застаецца пажадаць, каб такія краязнаўчыя чытанні прапісаліся ў Гарадку стала. Раённы цэнтр Віцебскай вобласці заслугоўвае такую ўвагу хаця б тым, што ім пазначаны самы ранні дакладны "адрас" аднаго са спісаў неўміручай паэмы: "1855, 15 красавіка, Гарадок".

Так што ў 2000 годзе можна адсвяткаваць 145-годдзе напісання "Тараса". А перад тым варта адзначыць 165-годдзе яе аўтара Кастуся Вераніцына (1834 — каля 1904). Спадзяемся, што ў раздзеле менавіта з такой персаналіяй з'явіцца некалі ў школьных падручніках "ананімны" твор.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Гарадоччына. Астраўлянскае возера. Востраў Ляны.**

*ДАСЛЕДЧЫК*

## В. СКАЛАБАНУ — 50

Плённа і ўпэўнена працуе на гістарычнай ніве Віталь Скалабан, які сустрэў сваё 50-годдзе. Віталь Уладзіміравіч родам з вёскі Шылавічы Слонімскага раёна, з 1951 года жыў у Ляхавічах. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, паступіў у Ленінградскі універсітэт імя А. Жданава, гістарычны факультэт якога скончыў у 1970 годзе. Кандыдат гістарычных навук. З 1972-га да 1995-га года працаваў у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, прымаў удзел у выданні такіх аўтарытэтных даведнікаў, як "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя", "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі", біябібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі", падрыхтоўцы "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", "Беларускай энцыклапедыі" і іншых выданняў. Асноўны накірунак даследчыцкай дзейнасці Віталя Уладзіміравіча — гісторыя беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Вывучае ён таксама беларускую літаратуру і культуру XIX — пачатку XX стагоддзяў. В. Скалабан быў рэдактарам-складальнікам гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць" Ляхавіцкага раёна, адным з аўтараў дакументальна-мастацкіх тэлефільмаў "Без эпітафіі" (пра Ц. Гартнага, 1990), "Справа Ігнатоўскага" (1991), "Ніколі я не паміраў..." (пра Янку Купалу, 1992), "Імша па Купалу" (1993), "БНР. Час звеставання" (1993). Аўтар шматлікіх публікацый у перыядычным друку.

# КУЛЬТУРНАЯ СПАДЧЫНА ПАВІННА АБ'ЯДНОЎВАЦЬ, А НЕ РАЗ'ЯДНОЎВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ

Паважаныя спадарыні і спадары!

Гістарычныя лёсы беларускага народа, беларускай дзяржаўнасці, бадай, найбольш драматычныя і нават трагічныя, калі параўноўваць іх з лёсамі іншых народаў і дзяржаў, прадстаўленых на гэтым высокім форуме. Так, у нас ёсць старадаўнія традыцыі, што бяруць пачатак ад Полацкага, Тураўскага, Гродзенскага і іншых княстваў. Так, мы маем багатую культуру — дастаткова нагадаць, што якраз цяпер адзначаецца 480-годдзе нашага, скарынінскага кнігадрукавання. Аднак жа на працягу цэлых стагоддзяў беларускія землі часткова альбо поўнасцю добраахвотна ці прымусова ўваходзілі ў склад іншых дзяржаўных утварэнняў — Кіеўскай Русі, Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, Савецкага Саюза. Але нашы продкі часцей за ўсё выступалі ў гісторыі пад іншым, няўласным іменем — як русіны, ліцвіны, белаляхі, крэсавякі, палешукі, тутэйшыя, жыхары паўночна-заходніх губерняў ці ўсходніх ваяводстваў. Этнічныя вярхі, інтэлектуальную эліту па чарзе захліствалі хвалі паланізацыі ці русіфікацыі. Адсюль і нашы сённяшнія праблемы — нацыянальныя, дзяржаўныя, культурныя. Адсюль і складанасці з нашым менталітэтам, які, у адрозненне ад суседзяў, усё яшчэ фарміруецца і нават рэгрэсіруе. Адсюль і нашы складанасці ва ўзаемаадносінах з суседзямі, сярод якіх (за выключэннем, бадай, Латвіі) ёсць, скажам так, грамадскія групоўкі, якія прэтэндуюць на частку нашай тэрыторыі, на частку нашай культурнай спадчыны, асабліва іншамоўнай.

З вашага дазволу, я спынюся на культурнай спадчыне, асабліва — спрэчнай, поліэтнічнай. Гэтая спадчына сёння павінна зближаць, аб'ядноўваць суседнія краіны і народы. Але, на жаль, часцей раз'ядноўвае, служыць перашкодай у нашых суседскіх узаемаадносінах. Паверце, мне, беларусу па перакананнях, але адначасова чалавеку, які мае літоўскія карані, выхаванаму на польскай і рускай культурах, становіцца балюча, калі я чытаю, што культурная спадчына Вялікага Княства Літоўскага (у тым ліку летапісы, статуты, метрыкі) з'яўляецца выключна ўласнасцю сённяшняй Летувы ці што яна стваралася не на старажытнай беларускай мове, а на штучнай "канцылярскай мове" ВКЛ, альбо, з другога, нашага боку, што ВКЛ, дзяржава поліэтнічная, была выключна дзяржавай беларускай. Робіцца прыкра, калі бачу выдадзеныя цяпер у Польшчы кнігі пра Нясвіж, Гродна, Слонім, дзе гэтыя гарады называюцца нават не "крэсавымі", а спрадвеку польскімі, а, з другога боку, калі чытаю ў нашай прэсе, што Адам Міцкавіч — гэта беларускі паэт. Становіцца няёмка, калі аўтарытэтныя людзі нават Скарыну, нават Ефрасінню Полацкую, Сімяона Полацкага лічаць з'явамі толькі расійскай культуры, а, з другога боку, што Глінка ці Дастаеўскі — гэта амаль ці не стопрацэнтныя беларусы. І ўжо зусім губляецца аптымізм, калі чуеш ці чытаеш, што кожны католік у Беларусі — гэта абавязкова паляк ці літовец, а кожны праваслаўны — абавязкова рускі. Міжволі думаеш тады: што — беларусам зусім Бог не даў месца пад сонцам?!

Каб рассеяць падобныя прадузятасці і стэрэатыпы, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, якую я тут прадстаўляю, выдае штомесячны бюлетэнь "Кантакты і дыялогі", дзе змяшчаюцца артыкулы, інфармацыя і бібліяграфічныя звесткі пра наша ўзаемадзеянне, штогод праводзяцца кангрэсы ці канферэнцыі, выдаюцца зборнікі на гэтую тэму. Апошні такі зборнік (у дзвюх частках) мае назву, якая непасрэдна адносіцца да тэмы нашай сённяшняй размовы: "Беларусь паміж Усходам і Захадам. Праблемы міжнацыянальнага, міжрэлігійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння, дыялога і сінтэзу". Паколькі ў ім апублікаваны матэрыялы (пералічваю па алфавіту) беларуска-латышскага, беларуска-літоўскага, беларуска-польскага, беларуска-расійскага і беларуска-ўкраінскага "круглых сталоў", мне хацелася б гэта выданне перадаць паважаным прэзідэнтам суседніх дзяржаў.

Асабліва складаным з'яўляецца пытанне аб спрэчнай культурнай (як матэрыяльнай, так і духоўнай) спадчыне, аб яе рэстытуцыі, вяртанні ў краіну паходжання ці сумесным выкарыстанні. Паколькі Беларусь раней уваходзіла ў склад іншых дзяржаўных фарміраванняў, у іх сталіцах, Вільне, Варшаве, Пецярбургу, Маскве, асядалі беларускія па тэрыторыі паходжання музейныя, бібліятэчныя, архіўныя каштоўнасці. Дзяліць іх, патрабаваць вяртання — справа з юрыдычнага пункту гледжання амаль безнадзейная. Да таго ж яна псавала б нашы суседскія адносіны, гняла б іх. Таму, як мне здаецца, сёння больш перспектыўна ставіць пытанне аб сумесным выкарыстанні спрэчных культурных каштоўнасцей — іх публікацыі, капіраванні, дэманстрацыі на абменных выставах, дэпаніраванні, нарэшце, вывучэнні. А для гэтага, вядома, неабходны свабодны доступ да каштоўнасцей, якога беларускім вучоным сёння часта не хапае, асабліва ў Расіі. Вельмі важныя тут таксама маральна-этычныя аспекты, праяўленне добрай волі кіраўнікоў дзяржаў. Пра ўсё гэта, дарэчы, нядаўна, у чэрвені месяцы, гаварылася на спецыяльнай Міжнароднай канферэнцыі па праблемах рэстытуцыі, праведзенай у Мінску пад эгідай ЮНЕСКА. Выніковы дакумент гэтай канферэнцыі, звернуты ў першую чаргу да кіраўнікоў суседніх дзяржаў, я дазволю таксама прыкласці да нашага зборніка.

З-за адсутнасці часу я не буду тут пералічваць нашы страты помнікаў гісторыі і культуры. Падкрэслю толькі, што яны велізарныя, большыя, чым у любой іншай еўрапейскай дзяржаве. У час апошняй вайны былі вывезены і разрабаваны фонды амаль усіх беларускіх музеяў, бібліятэк і архіваў. За мяжой беларускіх каштоўнасцей больш, чым у самой Беларусі. І ў вяртанні іх мы спадзяемся не столькі на законы і дагаворы (яны альбо не падпісаны, альбо не дзейнічаюць), колькі на добрую волю суседзяў.

Дазвольце мне тут ужо, хутчэй, не як вучонаму, а як пісьменніку, крыху пафантазіраваць аб тым, што б я зрабіў на месцы прэзідэнтаў суседніх дзяржаў.

На месцы Прэзідэнта Літвы, паважанага спадара Бразаўскаса я б адрадзіў у Вільнюсе, у ранейшым памяшканні, Віленскі беларускі музей, закрыты бальшавікамі ў 1946 годзе. Фонды яго сёння раскінуты па многіх музеях, бібліятэках і архівах Літвы і Беларусі. Сабраныя зноў разам, яны паслужылі б асновай цэнтру літоўска-беларускага добрасуседства. Размовы пра яго вядуцца даўно, але вынікаў няма. Карыстаючыся нагодай, я хацеў бы выказаць літоўскім уладам вялікую ўдзячнасць за вернутыя ў Беларусь ксеракопіі Тураўскага Евангелля і гравюр Напалеона Орды.

На месцы Прэзідэнты Польшчы, паважанага пана Квасьнеўскага, я б, калі не вярнуў, то хаця б перадаў у дэпазіт Нясвіжскаму замку 89 партрэтаў з галерэі Радзівілаў, якія ў 1950 годзе былі падораны намі, натуральна, пад націскам з Масквы, Баляславу Беруту. А таксама падарыў бы Беларусі, Навагрудчыне, копіі Лаўрышаўскага Евангелля і метрычнай кнігі Навагрудскага касцёла з запісам аб нараджэнні Адама Міцкевіча, якая была нелегальна вывезена ў Польшчу ў 1946 годзе.

На месцы Прэзідэнта Расіі, паважанага пана Ельцына, я, калі б не вярнуў, то падарыў бы Беларусі калекцыю слуцкіх паясоў, вывезеную ў Маскву ў 1940—1941 гадах, а таксама дублікаты скарынінскіх выданняў, якіх няма ні ў Мінску, ні ў Полацку, на радзіме першадрукара. І дапамог бы ў пошуках слядоў нашай рэліквіі № 1, Крыжа Святой Ефрасінні Полацкай, эвакуіраванай з Магілёва ў 1941 годзе.

На месцы Прэзідэнта Украіны, паважанага пана Кучмы, я б, калі не вярнуў, то зрабіў бы аб'ектам сумеснага карыстання славутую бібліятэку Храптовічаў, вывезегую ў Кіеў напярэдадні і ў час першай сусветнай вайны, і дапамог бы ў правядзенні ў Мінску выставы беларускіх скарбаў, якія апынуліся ў Львове, у музеі мітрапаліта Шаптыцкага, у пачатку нашага стагоддзя. Хачу адначасова падзякаваць уладзе Украіны за вяртанне Беларусі ікон, якія пасля апошняй вайны выпадкова апынуліся ў Кіеве.

Ну а на месцы Прэзідэнта Беларусі, паважанага пана Лукашэнкі, я б прадоўжыў практыку бясплатнага вяртання суседзям, перш за ўсё Расіі, ікон і іншых твораў мастацтва, якія так часта канфіскуюцца таможнікамі на беларуска-польскай і беларуска-літоўскай мяжы. І стварыў бы па прыкладу іншых краін дзяржаўную і навуковую структуры, якія займаліся б рэстытуцыяй.

І ў заключэнне дазвольце ад фантазіравання, зрэшты, лёгка рэальна выконваемага, перайсці да канкрэтных прапаноў.

Першае. Дзеля нашага ўзаемаразумення, добрасуседскіх адносін неабходна адзіная інфармацыйная прастора для краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Парадаксальна, але факт: раней яна была, а цяпер амаль знікла. Звесткі аб публікацыях (ці самі публікацыі) у Літве ці Латвіі нам атрымаць больш складана, чым аб публікацыях у ЗША. Патрэбны сумесны Банк інфармацыі, перш за ўсё, у гуманітарнай сферы. Пачатак яму мы спрабуем пакласці, але пакуль што з недастатковым поспехам.

Другое. Мы знаходзімся напярэдадні 200-гадовага юбілея Адама Міцкевіча. І, відавочна, па-ранейшаму будзем дзяліць агульнага генія паміж Польшчай, Беларуссю, Літвой. Напэўна, ён сам жахнуўся б ад гэтага. Дык няхай жа юбілей будзе суседскім, агульным. Як і іншыя юбілеі.

І трэцяе. У Беларусі распрацаваны (пад "парасонам" ПРААН) цікавы турыстычны праект "Залатое кальцо Беларусі". Я б хацеў звярнуць на яго ўвагу суседзяў. Таму што нішто так не збліжае людзей, як знаходжанне на суседскай зямлі. У якасці жаданага госця.

Дзякую за ўвагу!

## УВЕКАВЕЧАНА ПАМЯЦЬ МАСТАКА



**Увекавечана памяць народнага мастака БССР і РСФСР В. Бялыніцкага-Бірулі на яго радзіме ў Бялыніцкім раёне. Тут на беразе Друці, дзе размяшчалася вёска Крынкі, у якой нарадзіўся жывапісец, адкрыты гранітны памятны знак. Аўтар яго — вядомы скульптар з Мінска Уладзімір Лятун.**

**НА ЗДЫМКАХ: Уладзімір ЛЯТУН ля памятнага знака; месца, дзе нарадзіўся В. Бялыніцкі-Біруля.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА.**



## У ПОЛЬСКІХ БЕЛАРУСІСТАЎ

# «ACTA POLONO-RUTHENICA»

Мне прыемна паведаміць праз "Голас Радзімы", што ў Ольштыне выйшаў другі нумар перыядычнага навуковага выдання "Acta Polono-Ruthenica". Гэта плён творчай працы Інстытута ўсходняга славянства Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне. У складзе навуковага камітэта выдання, між іншым, — прафесары Альберт Барташэвіч, які ўзначальвае камітэт, Базылі Бялаказовіч, Лявонцій Міранюк, Валенты Пілат, а таксама магістр Івона Абланкоўска-Галянцяк. Як сведчыць ужо сама назва, часопіс публікуе навуковыя даследаванні, што датычацца культуры, літаратуры і мовы рускай, беларускай ды ўкраінскай.

Мяркую, што беларускага чытача найперш зацікавіць беларуская тэматыка. Таму падкрэслю, што на старонках часопіса як у першым, так і ў другім нумарах прадстаўлена яна даволі багата. Напэўна, яна прыцягне ўвагу не толькі даследчыкаў літаратуры і мовы, а і ўсіх, хто цікавіцца беларускай культурай і яе ўзаемасувязямі з культурай украінскай, рускай і польскай. Асабліва хацеў бы рэкамендаваць наступныя артыкулы: М. Яцкевіч "Беларуская школа" ў польскай рамантычнай літаратуры", Т. Буйніцкі "Беларускія матывы ў паэзіі жагарыстаў", В. Супа "Сакрат Яновіч — пісьменнік беларуска-польскага памежжа", Я. Чыквін "Заступніца (творчасць Ларысы Геніюш)", Л. Міранюк "Культура польска-ўсходнеславянскага пагранічча", Л. Пісарык "Этыкетныя моўныя паводзіны герояў камедыі Янкі Купалы "Паўлінка" як адлюстраванне польска-беларускага культурнага ўзаемадзеяння", Х. Бідэр "Тэндэнцыі развіцця норм беларускай літаратурнай мовы: русіфікацыя, паланізацыя ці беларусізацыя?"

Гэта толькі невялікая частка матэрыялаў, у якіх закранаецца беларуская тэматыка. Чытач знойдзе ў часопісе многа іншых змястоўных, арыгінальных артыкулаў. Як у першым, так і ў другім нумарах "Acta Polono-Ruthenica" займае значнае месца беларуская праблематыка. Са сваімі працамі выступаюць вучоныя і літаратары Ф. Сяліцкі ("Берасцейская унія і беларускі народ і фальклор"), С. Яновіч ("Беларусь у чатырох канфесіях"), А. Баршчэўскі ("Беларускае рэлігійнае пытанне на старонках "Пшэглёнду Віленьскіего"), Г. Зянкевіч ("Па слядах бацькі. Уладзіслаў Міцкевіч у Беларусі ў 1861 годзе"), В. Рагойша ("Паміж Польшчай і Расіяй. Янка Купала і беларускае нацыянальнае адраджэнне ў XX стагоддзі").

Цешым сябе надзеяй, што нашы навуковыя выданні спатрэбяцца ўдзячным чытачам не толькі ў Беларусі, але і ў асяроддзі дыяспары ў Еўропе, Злучаных Штатах Амерыкі, Аўстраліі і Канады.

Для тых, каго зацікавіла маё паведамленне, падаю адрас, па якім можна атрымаць "Acta Polono-Ruthenica": **Wydawnictwo Uczelniane, ul. Szrajbera, 11, 10-007 Olsztyn. Польшча.**

**Валенты ПІЛАТ.**
Ольштын, Польшча.

## З ВЫСТАВЫ ГЕРАЛЬДЫКІ

# «ЯДНАЕ СПРЫЯННІ»





У нашай сям'і існавала глухая пагалоска, быццам хтосьці з нашага роду паходзіў са шляхты. Мільгала ці то прозвішча, ці то імя — Равіч. Мама расказвала, як у 37-м мой дзядуля паспальваў у печы прыгожыя фотаздымкі з шляхцянкамі ў шыракаполых капелюшах і вайскоўцамі ў мундзірах з шаблямі — яе дзядамі і бабцямі. Пазней даведаўся, што "Равіч" не імя і не прозвішча, а назва герба, да якога належалі мае продкі па матчынай лініі.

І вось на выставе "Старадаўняя геральдыка Беларусі" меў радасць зноў сустрэцца з гэтым гербам. Панна каранаваная, у чырвонай сукенцы, седзячы на чорным мядзведзі, раскрывала мне абдымкі, а ўверсе, над каронаю, між рагамі аленевымі, мядзведзь трымаў чырвоную кветку.

Гэтая выстава адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Заяўленая тэма ёсць і нечаканай, але ж і наспелай. Ніколі ў айчынных музейных экспазіцыях геральдыка не прадстаўлялася адмыслова, так бы мовіць, "пад мікраскопам". А між тым геральдычная культура на працягу стагоддзяў развівалася на Беларусі. Дакументальна засведчана, што ў нас да XIX стагоддзя кожны дванаццаты, а то і пятнаццаты чалавек са ста быў са шляхты, а значыць меў знак сваёй годнасці — герб. Упэўнены, што большасць з нас не задумваецца над сэнсам гэтага слова — "шляхта", успрымаючы яго як чужаслоў, што мае слабае дачыненне да беларусаў. "Шляхта", сапраўды, слова нямецкага паходжання і перакладаецца як "ваяры", "баяры", "людзі бою". Напачатку шляхта — гэта прафесійныя вайскоўцы. А вось сэнс слоў "бітва" і "войска" нашаму народу, на жаль, знаёмы надзвычай добра. Патрэбы абароны і людзей бою і спрычыніліся да ўзнікнення такой вялікай колькасці шляхты на нашых землях.

Але вернемся да выставы. Яна невялікая — зала плошчаю квадратных метраў 60—70. Тут найцікавейшая калекцыя пячатак з радавымі гербамі, шыкоўная гербавая пячатка Трыбунала ВКЛ Гродзенскай кадэнцыі 1788 года, дакумент з адбіткам герба Фёдара Еўлашоўскага. Прадстаўлена геральдыка дзяржаўная і канфесійная, узоры гербаў гарадскіх, вайсковых, цэхавых. Тут радаводныя дрэвы, партрэты, кнігі, харугвы, кафлі, манеты, памятныя пліты. Тут дакументы XVI—XVII стагоддзяў. Матэрыялы аўтэнтычныя, з музейных фондаў. І гэтая разнастайнасць арганізавана ў прасторы лагічна і прыгожа з пунту гледжання эстэтыкі, шляхетна, густоўна. Многім экспанатам можна прысвячаць асобны сюжэт.

І што яшчэ ўражвае, дык гэта даведачны апарат — каментары да экспанатаў, дакладныя, сціслыя, інфарматыўныя. Калі наведвальнік нелянівы, ён узбагаціць свой досвед найцікавейшымі звесткамі і пра геральдыку, і пра носьбітаў яе. Напэўна, такая грунтоўнасць ёсць заслугаю навуковага дарадцы, спадара Зьміцера Яцкевіча, прафесіянала, супрацоўніка Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. У стварэнні выставы ўзялі ўдзел больш за 20 асоб. Але найбольшы клопат хіба выпаў на мастака, спадара С. Петрынанца; каардынатара фондавых пошукаў спадарыню Н. Саўчанка і кіраўнічку творчай групы спадарыню І. Зварыка.

У дзень адкрыцця выставы, 16 верасня, адна кафля з геральдычнаю вывяай зачаравала паэтэсу Ірыну Багдановіч, і нарадзіўся верш. Кафля гэтая на фотаздымку. А вось верш:

**МАГІЛЁЎСКАЯ КАФЛЯ XVII СТАГОДДЗЯ**

(каля экспаната выставы старадаўняй геральдыкі Беларусі)

**Арол магутны двухгаловы**
**Трымае бэрла і дзяржаву.**
**Здаецца, што цішэюць**
**словы**
**Ад гэткай непамернай славы.**
**Нібыта тут яму належыць**
**Усё ад замкаў да палеткаў.**
**Ён так прывык да нашых**
**межаў.**
**Але ж ільвы стаяць за**
**сведкаў**
**Тут аберуч, нібыта вежы.**
**І мы ўглядзімся нескарона.**
**Ільвы трымаюць герб той**
**царскі**
**Ён пад шляхецкаю каронай! —**
**Арол той хіжы і вядзьмарскі.**
**Ён з трох бакоў закратаваны**
**Ільвамі і каронай Княства,**
**Як верабей утаймаваны.**
**І шчыт яго — ягона ж**
**пастка!..**
**Вось так пра нашую Айчыну,**
**Пра старадаўні лад нанова**
**Раскажа самым дзіўным**
**чынам**
**Кавалак кафлі з Магілёва.**

**Ірына БАГДАНОВІЧ. 16.09.97.**

Гэтая выстава — першая ў нашай музеялогіі на шляху адраджэння і папулярызацыі геральдычнай культуры Беларусі. На запрашальніку да выставы змешчана выява аднаго з экспанатаў — дымнай пячаткі з прыгожым гербам і дэвізам "Conjungit favores", што ў перакладзе з лаціны значыць "Яднае спрыянні". Добрага шляху табе да нас, "Старадаўняя геральдыка Беларусі"!

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

## ЗАМАЛЁЎКІ ПРЫРОДЫ

# ДЗЯЦЕЛ

Ён стукацеў каля майго акна кожны дзень. З раніцы да вечара. Тонкая хвойка трымцела пад яго дзюбаю. Спярша гэты стук перашкаджаў мне пісаць. Але хутка я прывык да яго, як прывыкаюць у хаце да перастуку ходзікаў. А праз тыдзень я нагул не звяртаў увагу на стукаценне дзятла. Затое пачаў заўважаць другое: як толькі вострадзюбы спыняў сваю работу, я адразу забываў пра свой занятак, расчыняў акно і пачынаў вачыма абшукваць хвою: дзе ён?

Крывабокая і разгалістая хвойка-раскарака, што стаяла пад маім акном, было не зусім звычайнае дрэва. Для дзятла. Перш чым яго аблюбаваць, стракаты абшастаў увесь лес, абгледзеў багата дрэў. Яму трэба была "кузня", дзе можна было цесна зашчаміць шышку і вымалочваць з яе семкі. Такую "кузню" дзяцел знайшоў пад маім акном. Прынясе шышку, ушчэміць яе між галіны і ствала — і давай малаціць. Абмалоціць адну — прыносіць другую. І так дзень у дзень, тыдзень у тыдзень.

Мне з акна добра была відаць дзятлава работа. І раптам з адной кнігі, якую сюды прывёз, я даведаўся пра лясного каваля такое, у што цяжка паверыць. У дзятла, мауляў, ёсць прафесійная хвароба: страсенне мозгу. Стукае, стукае дзеньудзень і памірае на працоўнай вахце.

Не ведаю, ці сам аўтар бачыў смерць птушкі, ці вычытаў, як я, таксама ў нейкай доследна-пісьмовай крыніцы, але яго кніжнае паведамленне моцна мяне ўразіла.

Цяпер вось пазіраю праз акно сваёй лясной хаты на дзятла, на яго ўпарты занятак, і паступова ў самога пачынае балець галава.

# ПАВУК

Запаліў у печы, каб зварыць вячэру. Калі полымя абхапіла бярвенцы, на канцы аднаго палена раптам паказаўся павук. Ён ад страху замітусіўся і, дробненька перабіраючы лапкамі, пераскочыў на другі канец палена. Але там яго таксама сустрэў агонь. Павук кінуўся назад і зноў наткнуўся на полымя. Потым, трапіўшы ў безвыхаднае становішча, замёр на месцы — зміръіўся, відаць, са сваёй смерцю. Але не... У гэты час агонь абхапіў усё палена. І раптам абгарэлыя спадысподу дровы абваліліся. А палена з павуком выкацілася з печы і з грукатам звалілася на падлогу.

Я падумаў, што пры такім удары ад павука не засталося і мокрага месца. Але, калі падняў палена, спрытны павук выскачыў з-пад яго і пабег па падлозе. І не разлічыў — трапіў у шырокую лужу, якая разлілася каля парога. І знерухомеў. Ну, падумаў я, калі ў агні не згарэў, дык у вадзе ўтапіўся. Але павук раптам тузануўся ў лужы туды-сюды, рвануўся наперад і выплыў са свайго мора на бераг. І, сабраўшы апошнія сілы, кінуўся наўцёкі за парог.

Я ўзрадаваўся за павука і пачаў прыгадваць выпадкі са свайго жыцця, калі не раз мяне таксама падпартоўвала смерць. Асабліва стаяў у памяці выпадак, калі я, малы, выратаваўся з падпаленай у вайну немцамі хаты. Яны потым, калі бег да лесу, і стралялі па мне. Але я і цяпер жыву.

Так што нічога не трэба баяцца і ў кожным выпадку не губляцца, калі трапіш у вялікую бяду ці смяротэльную небяспеку.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1396. Падпісана да друку 6.10.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.